№ 44 (253) 29 кастрычніка 2001 г.

# НАША НІВА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у панядзелкі

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА



## УСЁ ПРА ПЭНСІЙНУЮ РЭФОРМУ,

**тую, якая праводзіцца, і тую, пра якую пакуль баяцца гаварыць адкрыта.**

Тэма нумару. Старонка 4.

ПАДПІСНЫ ІНДЭКС 63125

## Беларуская АЭС за мяжою РБ

*Пранямецкі ўрад Навіцкага гатовы інвэставаць у развіцьцё энэргетыкі Смаленшчыны*



Беларусь можа ўкласьці грошы ў будоўлю новага энэргаблёку Смаленскай АЭС. Гонар зрабіць гэтую заяву дастаўся новапрызначанаму прэзыдэнту Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Міхаілу Мясьніковічу на сустрэчы з намесьнікам міністра атамнай энэргіі Расеі Валянцінам Івановым.

Расейцы падтрымалі прапанову беларускага боку. Гэта для іх выгадная інвэстыцыя. Мясьніковіч лічыць, што новы энэргаблёк дазволіць Беларусі выпрацоўваць і атрымліваць патрэбную колькасьць электраэнэргіі ды разам з Расеяй экспартаваць яе ў Польшчу і Нямеччыну.

Беларусь пра лепшае не магла й марыць. Замест таго каб будаваць станцыю на сваёй тэрыторыі, яна збудуе яе на расейскай. У Расеі ж будуць складвацца атамныя адкіды. Дэфіцыт электраэнэргіі, ад якога пакутуе Беларусь, зьменшыцца.

Уплыў Беларусі на расейскае памежжа, у тым ліку і на этнічна беларускія ў мінулым часткі Смаленшчыны і Браншчыны, вялікі. Тлумачыцца ён эканамічнай экспансіяй Беларусі ў іх. 40% сумесных прадпрыемстваў там — беларуска-расейскія. Яны займаюцца пераважна гандлем таварамі, незаконна ці напаўзаконна ўвезенымі зь Беларусі. Можна толькі ўявіць, наколькі пашырыцца гэты ўплыў у выпадку развіцьця прыватнага сэктару ў Беларусі і прытоку нямецкіх інвэстыцыяў у нашу краіну. Беларусь і цяпер уяўляецца жыхарам расейскага памежжа ўзорам парадку і сацыяльнай стабільнасьці. Пад гукі інтэграцыйных прамоваў шматлікія тамтэйшыя прадпрыемствы ня вытрымалі канкурэнцыі зь беларускімі, якія атрымлівалі датацыі зь дзяржбюджэту. Гэтак "загнуліся" смаленская цагельні ды бранская мэблевая прамысловасьць. Зь іншага боку, смаленская харчовая прамысловасьць жыве экспартам нізкаякаснага таннага харчу ў Беларусь.

Для Беларусі было б цікава, каб на будоўлі і ў абслугоўваньні будучага энэргаблёку працавау і беларускі пэрсанал. Наша краіна таксама зацікаўленая ў адпаведнасьці будучай станцыі эўрапейскім стандартам бясьпекі і найноўшым тэхналёгіям.

Калі "смаленскі праект" скончыцца посьпехам, беларускія ўкладаньні ў сыравінную і энэргетычную галіны расейскай гаспадаркі будуць і далей узрастаць. А наша краіна — ператварацца ў своеасаблівую "падушку" бясьпекі паміж Расеяй і Нямеччынай.

Немцы пастанавілі зачыніць усе свае АЭС. Будаўніцтва новых крыніцаў энэргіі ім дарэчы. Беларусы гатовыя ім дапамагаць — але мінімізуючы экалягічную рызыку для сваёй краіны.

**Барыс Тумар**

Пра Смаленскую АЭС — на старонцы 5.

## Дзелім-дзелім Курапаты

**КХП—БНФ арганізавала шэсьце ў Курапаты ўчора. А грамадзкая ініцыятыва "За ўратаваньне мэмарыялу Курапаты" будзе ладзіць свае Дзяды 3 лістапада. Чаму ня разам? Дзеляць-дзеляць тыя Курапаты, як пасваракы браты, што да сьмерці разьбіраюць хату нябожчыка-бацькі. І няма каму ім сказаць: годзе!**

Апазыцыя, не дачакаўшы ад Лукашэнкі масавых расстрэлаў і рэпатрыяцыяў пасьля 9 верасьня, ня ведае, што рабіць. Хацелі адстаяць незалежнасьць — адстаялі. Хацелі зрынуць Лукашэнку — ня зрынулі. Што далей? Пакуль па інэрцыі любое дзеяньне ўладаў сустракаецца агрэсіяй: ня ходзяць ліфты ў Магілёве — улады паадключалі, каб апазыцы цяжэй жылося.

Беларуская ідэя зьвялася ў большай часткі апазыцыі да ідэі ліквідацыі наяўнага рэжыму. А ён ліквідацыі не паддаўся. Ну, хай і ідэя стаіць разам з намі ў тупіку.

Перш чым ушанаваць памяць ахвяраў, трэба скласьці падрабязны мартыралёг. Гэта заданьне гісторыкаў. Архіў найноўшай гісторыі туліцца ў цесным пакойчыку, зь мінімумам супрацоўнікаў.

Працяг на старонцы 2.




УЛАДЗІМЕР ШЛАПАК

**Каля 1000 чалавек узялі ўдзел у традыцыйным жалобным шэсьці ў Курапаты, наладжаным учора Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыяй БНФ. Людзі пранесьлі праз увесь Менск і паставілі на гары-нэкропалі 20 новых крыжоў.**

## Верныя сыны беларускага народу

Уладзімер Содаль

*Развагі на Дзень памяці*

Я жыву ля так званых Маскоўскіх могілак. Што гэта за могілкі — ведае ўвесь Менск і, мабыць, уся Беларусь. Тут хавалі калісь партыйную эліту. Прасты люд сюды не трапляў. Тут спачываюць вечным сном Пётра Машэраў, Ціхан Кісялёў, Хведар Сурганаў, Сяргей Прытыцкі...

Для іх вылучаны асобны клін, пахаваньні яны прасторна, пампэзна. Шмат тут і драбнейшых партыйных сошак: колішніх міністраў бутафорскай дзяржавы БССР, іхных намесьнікаў, членаў ЦК КПБ.

Шмат разоў мне даводзілася быць на іхных хаўтурах, і кожнага разу чуў, як у разьвітальным слове казалі, што хаваюць вернага сына беларускага народа.

А тыя верныя сыны ўжо даўно і роднай мовы выракліся, і думаць самастойна, па-беларуску, адвучыліся. З раскрытым ротам адно глядзелі, толькі слухалі, што Масква скажа. Яны нават свае могілкі, сваё апошняе прыстанішча назвалі Маскоўскімі. Пасьля праведнай, "пакутлівай" працы па разбурэньні беларускага этнасу яны знайшлі вечны спачын на сваім крэўным Маскоўскім могільніку. Але ці спачын? Ці сьпіца ім?

Калі гэта такое было, каб могілкі ахоўвалі аўчаркі? А Маскоўскія ахоўваюцца менавіта так. Ці пабоску гэта? Што гэта за жыцьцё такое было, калі трэба яго і пасьля сьмерці ахоўваць? І што за грамадзтва стварылі гэтыя "верныя сыны беларускага народу", калі ў ім квітнее вандалізм і кожную хвіліну вісіць пагроза руйнаваньня іхных апошніх прыстанішчаў?

На Даўгабродзкім могільніку таксама пахавана шмат выдатных дзеячаў, адданых беларускаму народу. Але ж там няма міліцыянтаў з аўчаркамі. Затое ёсьць сьвятыня, бажніца — сымбаль спакою нябожчыкаў. Шмат на Маскоўскіх могілках грунтоўных, на вякі, помнікаў. Але ці будуць яны стаяць вякі? Ці ня зробяць нашчадкі "верных сыноў беларускага народу" тое, што зрабілі яны, яшчэ жывыя, пры ўладзе з могілкамі сваіх папярэднікаў — бульдозэрам па жывой гістарычнай памяці? Гэта зь іхнай волі, па іхнай указцы зьніклі могілкі на Залатой Горцы, на Пярэсьпе ды шмат яшчэ дзе.

Ці думалі тыя, хто сёньня спачывае на Маскоўскіх могілках, што, не шануючы памяці продкаў сваіх, яны падрыхтавалі і сабе прысуд?

Ня думайце, што я гэтага хачу. Але прыклад і ўзор падрыхтаваньня.

...Кожны вечар, як толькі апускаецца на зямлю змрок, Маскоўскія могілкі абуджае нязмоўна глухі разьятраны брэх натрэніраваных сабак. Такіх традыцый Беларусь яшчэ ня ведала. Ну што ж, хто як жыў, таго на тым сьвеце заслужыў. Але ад справядлівых дакораў за ўчыненае і аўчары не аберагуць, і пампэзныя помнікі не паратуюць. Гісторыя справядліва кожнаму сваё вызначыць. І ўсё ж хочацца сказаць: "Сьпіце спакойна! Толькі не лічыце сябе вернымі сынамі беларускага народу! Вы імі ніколі не былі!"





## "Наша Ніва" і "Arche" ў Баранавічах

13 лістапада, у аўторак, а 18-й у Баранавічах адбудзецца сустрэча рэдактараў "НН" і "Arche" з чытачамі. Прыедуць Валерка Булгакаў, Андрэй Дынько. Пасьля сустрэчы — канцэрт Зьмітра Бартосіка. Пра месца сустрэчы паведамім у наступным нумары.

# Традыцыйнае шэсьце



УЛАДЗІМЕР ШЛАПАК

Месцам збору быў бульвар Талбухіна, дзе ахвотным раздавалі крыжы, сьцяжкі, транспаранты. Пакуль кіраўнікі акцыі спалі ў шапку, міліцыя ўзяла на сябе ініцыятыву, прапанаваўшы мітынгоўцам пашыхтавацца па чацьвёра ды заняць адну паласу праезжай часткі. Узначаліў шэсьце айцец Леанід Акаловіч (сьвятар Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы), побач ішоў у скуранцы, няспынна фатаграфуючы, лідэр КХП Юрась Беленькі. Былі ў натоўпе Вячаслаў Сіўчык, Алег Трусаў і Лявон Баршчэўскі. Іншых палітыкаў не было відаць. Пераважную частку калёны складала моладзь — маладафронтаўцы і зуброўцы.

Каля 15-й калёна дабралася да Курапатаў. Людзі наведалі наметы моладзі, што пільнуе, каб не разбудоўвалі шашы. Адпусьціўшы колькі "кіслых" словаў у бок бульдазэрыстаў, мітынгоўцы сабраліся вакол галоўнага крыжа.

Каталіцкі ксёндз і праваслаўны сьвятар адслужылі малебен. Дзівіла, што большасьць прысутных, якія прыйшлі памаліцца, ня ведалі "Ойча наш". Падчас малебну нейкі маладзён колькі разоў пракрычаў "Слава Расеі!". Яго дагналі, схапілі і павялі кудысьці ў лес.

Пасьля таго, як сьвятары асьвяцілі крыжы, пачалася палітычная частка акцыі. Прэс-сакратар КХП-БНФ Валеры Буйвал заявіў, што цяпер у Курапатах праходзіць лінія фронту. Юрась Беленькі ўспамянуў добрым словам Зянона Пазьняка і зачытаў яго факс.

Галоўным вынікам мэмарыяльнае акцыі стала ўсталяваньне дзясяткаў новых крыжоў у Курапатах.

**Э.Л.**

## Пацярпелыя за Беларусь

23 кастрычніка ў Гомелі затрымалі тутэйшых маладафронтаўцаў Дзяніса Чыкалёва, Юрася Васілюка, Уладзіслава Цупрыкава, Зьмітра Цярэнцева і трох Сержукоў - Сямёнава, Яўсеенку й Пасюту. Затрыманых адвезьлі ў РУУС, дзе пратрымалі 3 гадзіны - да ад'езду Лукашэнкі, які ў той дзень быў у Гомелі. Потым усіх адпусьцілі, абшукаўшы. 25 кастрычніка ў Маладэчне меўся адбыцца суд над "зуброўцам" Андрэем Асмалоўскім. Зранку перад будынкам гарадзкога суду згуртавалася каля 60 "зубранят", якія прыехалі падтрымаць паплечніка. Міліцыя затрымала Зьмітра Вішнеўскага й яшчэ аднаго "зуброўца", прозьвішча якога высьветліць не ўдалося. Вядома толькі, што ён няпоўнагадовы й завуць яго Коля. Суд перанесьлі. 26 кастрычніка падчас маладафронтаўскае акцыі, прысьвечанай памяці менскіх падпольшчыкаў, забітых фашыстамі, затрымалі Алёну Валынец, Максіма Вінярскага, Ірыну Вяткіну, Барыса Гарэцкага, сп.Лобана, Алесяў Нішчыка й Панцялея, Паўла Севярынца, мастацкага рэдактара "НН" Аляксея Чарняева, Кастуся Шыдлоўскага й Аляксея Шэіна. Зь імі пасадзілі й палітоляга Вольфа Рубінчыка, які таксама браў удзел у мэмарыяльнай акцыі. Сядзяць на Акрэсьціна.

# Дзелім-дзелім Курапаты

Працяг са старонкі 1.

Кніга Кузьняцова пра палітычныя рэпрэсіі ляжыць нявыдадзеная. "Беларускі Гістарычны Агляд" і "Спадчына" задыхнуліся ад безграшоўя. Хай бы КХП стала фундатарам першага, а БНФ "Адраджэньне" — выдаўцом другога. Даўно мінуў час, калі мітынгаваньнем можна было прыцягнуць да сябе ўвагу. А во гэтак бы: "Спадчына" — орган БНФ "Адраджэньне". Кожны ацаніў бы.

Палякі выдалі безьліч кніг ня толькі пра рэпрэсаваных, але і пра ваеннапалонных у савецкіх канцлягерах. Зьбіраюць зьвестку за зьвесткай. У нас адзіная абагульняльная праца, прысьвечаная палітычным рэпрэсіям — "Палітычныя рэпрэсіі ў Беларусі ў 20—50-х гадах" Уладзімера Адамушкі — выйшла яшчэ ў 1993 г. Дзіва што ў чыноўніка падымаецца рука весьці дарогу праз жалобны лес, а бульдазэрыст не стыдаецца піць на магіле.

Археалягічная камісія з Інстытуту гісторыі на чале з Алегам Іовам ня выявіла пахаваньняў рэпрэсаваных на шляху будаўнікоў. Абаронцы Курапатаў ім адказваюць: самое вядзеньне раскопак тут цынічнае.

Улада пайшла на саступкі: будоўлю спынілі да скончаньня раскопак. Дарожнікі гатовыя працаваць пад наглядам прадстаўнікоў грамадзкасьці, пабудаваць два пераходы. У Курапаты стане лягчэй дабірацца гарадзкім транспартам. Будуць адноўленыя памятныя знакі. Абаронцы Курапатаў не зьбіраюцца сыходзіць. "Мы будзем стаяць да канца", — кажуць яны. Г.зн. будзем стаяць, пакуль нас зь міліцыяй адсюль ня вывезуць, а тады заявім: во яна, нялюдзкая ўлада. Цяпер, калі кальцавая падышла ўжо да курапацкага лесу з абодвух бакоў, яны ўяўляюць сабе іншае вырашэньне канфлікту?

Моладзь хоча змаганьня, хоча прадэманстраваць свой гераізм. Аднак найцяжэйшае змаганьне — каторае без гераізму. У дадзеным выпадку — нястомна сачыць за працай дарожнікаў, каб ня ўлезьлі далей у лес. Курапаты не павінны стаць месцам новых арыштаў. На могілках трэба разыходзіцца падобраму.

**Эдвард Людовіч**



## З усёй краіны

### Чачэнскі бежанец

**Хамзат Дуглаеў — першы чачэнскі ўцякач у Смургонскім раёне.** Нягледзячы на сталы век (61 год), ён пакінуў родны Гудэрмес, каб пачаць новае жыцьцё ў маленькай вёсачцы Ракаўцы. Разам з сынам уладкаваўся працаваць на калгасную пілараму, дачка пайшла ў паляводы, унучка — у садок. Хамзатава жонка й дарослыя сыны засталіся на Радзіме — "сьцерагчы маёмасьць". Жывуць ракаўскія чачэнцы ў нейкай халупе, якую й хатай не назавеш. Ваду грэюць на вогнішчы ля дому. З мэблі — лава драўляная, пара крэслаў, дзьве койкі. Тэлевізара няма. А яны ня скардзяцца.

Хамзат паўтарае: "У вас спакойна. Жыць можна". А ўваччу — туга...

### Царква ў імя заступніцы

**Пабудавалі праваслаўную капліцу ў вёсцы Вішнева.** Пяць гадоў таму асьвяцілі месца і пачалася праца. Калгас дапамагаў, а таксама былі старшыня мясцовага выканкаму. На сьвяточнае адкрыцьцё цаглянае будыніны ў гонар сьв.Эўфрасіньні Полацкай прыехаў нават япіскап Навагрудзкі й Лідзкі Гуры. У Вішневе 90% насельніцтва — каталікі. Касьцёл яшчэ ў пачатку XIX ст. пабудаваны. І вось, урэшце, пайшлі насустрач праваслаўнай меншасьці. Ім таксама недзе маліцца трэба.


НОВАЯ ГАЗЕТА СМАРГОНІ

### Не хацела такога жыцьця

**У вёсцы Стрыпуны Смургонскага раёну павесілася 32-гадовая паштальёнка.** Перш чым палезьці ў пятлю, яна абліла хату бэнзынам і падпаліла. Там спаў ейны вечна нецьвярозы мужык. Але ён своечасова прачнуўся і з вогнішча выскачыць пасьпеў. Жанчыну ж выратаваць не ўдалося. Знайшлася перадсьмяротная запіска, у якой было між іншым: "Пахавайце нас разам". Во што надумала.

### Кожны шосты

**У смургонскім наркадыспансэры стаяць на ўліку 1003 алькаголікі й 400 п'яніцаў.** Па словах нарколяга Сяргея Чыкіна, гэтую лічбу можна сьмела павялічваць у 6 разоў, а то й болей. Смургонскія гандлёвыя кропкі зьбываюць штодня ад 5 да 15 скрыняў "пладова-ягадных напояў". А тыя, што працуюць кругласутачна, — ажно па 20.

Чаму ж ня быць кожнаму шостаму смургонцу алькаголікам?

**Тацяна Скарынкіна, Смургоні**

## З усёй краіны

### Крымінальны Слонім

**На вуліцы Слоніму быў знойдзены распрануты труп мужчыны са зьнятым скальпам.** Міліцыянты лічаць, што гэта не рытуальнае забойства, а спробы замесьці сьляды. Тым часам у Слонім адведаць сваякоў прыехаў амэрыканскі паліцэйскі. Ён падараваў слонімскім міліцыянтам нашыўкі штату Арызона і фірмовы значак. Наўзамен атрымаў міліцэйскія шаўроны і фуражку. Дубінку пашкадавалі.

**Паводле "Газэты Слонімскай"**

### З-за неасьцярожнасьці загінуў бацюшка

**Ля заводу "Спадарожнік" у Маладэчне матацыкл зьбіў бацюшку, які на месцы і памёр.** 59-гадовы айцец Мікалай, настаяцель Насілаўскай царквы, рамантаваў глушак свайго аўтамабіля, знаходзячыся на другой паласе шашы.

### Ксёндз Чарняўскі пайшоў на пэнсію

**У Вішневе (Валожыншчына) з канца верасьня будзе новы ксёндз.** Гэта веляйчук Уладзімер Шышла. Колішні сьвятар Уладыслаў Чарняўскі — ужо старэнькі. Яму 85 год, зь якіх 48 ён аддаў вішнеўцам, якія ўдзячна звалі яго "наш Уладэк". Цяпер кс.Уладыслаў жыве ў плябані Чырвонага касьцёлу Менску.


АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

Адведайце айца Ўладыслава, які колькі дзесяцігодзьдзяў прамаўляў у касьцёле па-беларуску.

**Паводле "Рэгіянальнай газэты"**

### Лейкоз наступае

**У прыватным сэктары Дарагічыншчыны выяўлена 430 хворых на лейкоз кароў.** Гэта значна больш, чым у калгасах-саўгасах, дзе ўсіх хворых кароў зьліквідавалі. Свойская ж худоба — і здаровая, і хворая — пасьвіцца ўся разам, што садзейнічае далейшаму распаўсюджваньню інфэкцыі. А лейкоз можа перадавацца ад каровы да чалавека нават праз сырое малако.

**Аляксандар Горбач, Івацэвічы**

## Лісты ў рэдакцыю

### Бярэзань, а не Беразіно

**Вельмі прыемна, што вашая газэта ўжывае назвы нашых гарадоў, мястэчак і вёсак у няспольшчаным і незрасейшчаным варыянце.**

Здаецца, адзіны горад, які вы пішаце скажона, гэта Беразіно. Наколькі мне вядома, раней гэтае мястэчка мясцовыя жыхары называлі Бярэзань.

**Алесь Ступень, Горадня**

### Апаганены помнік, падпісана — "зубрамі"

**Сёньня праходзіў праз старыя габрэйскія могілкі і быў вельмі ўзрушаны.**

З боку вуліц Сухой і Калектарнай, якраз дзе раней быў уваход на могілкі, у сярэдзіне 90-х усталявалі два камяні-помнікі закатаваным у час вайны габрэям. Цяпер гэта адзіныя помнікі на ўсе могілкі. Астатнія былі зруйнаваныя недзе у 80-м. Мая бабуля-нябожчыца, казала, што ў час вайны побач з могілкамі праходзіў роў. У яго немцы накідалі шмат забітых габрэяў і засыпалі. Нейкі час, яна казала, можна было бачыць, як варушылася глеба. Наша хата знаходзілася побач, і таму яна бачыла, што тамака адбывалася.

Адзін з тых помнікаў цяпер нехта размаляваў чырвонай фарбай. Зрабілі сымбалічную выяву бел-чырвона-белага сцяга, шасьцікутную зорку, надпіс з памылкай — "Забей жыда!", падпісаўшыся — "ЗУБР".

Вельмі шкада, што сапсавалі добры помнік. Увесь час там былі кветкі. Даволі часта я бачыў габрэйскіх дзетак, якія адкопвалі і зносілі да гэтых помнікаў раскіданыя па усей акрузе ацалелыя ад могілак камяні з надпісамі. Калі я запытаўся, навошта яны гэта робяць, пачуў адказ: тут пахаваныя нашыя продкі, і трэба, каб на могілках быў хоць нейкі парадак. Але тое, што адбылося сёньня, — ня простае хуліганства. Гэта, на жаль, і палітыка.

Мы мусім бараніць ня толькі Курапаты.

Хутка Дзяды, і, на мой погляд, нельга замоўчваць гэтую справу.

**Сяргей Паўзун, Менск**

**АД РЭДАКЦЫІ: Ня верым, што гэта зрабілі "зуброўцы". Гэта можа быць адна з тых правакацыяў, на якія майстры — іхныя палітычныя апанэнты. Але добра было б, каб якраз "зуброўцы" на Дзяды гэтае чужое паскудзтва і адмылі. Хвала была б ім і гонар.**

## Навіны гаспадарскія

### Сярэднія заробкі ўпалі на 5% за месяц

**З 99,3 да 94,2 даляра зьменшыліся пасьля выбараў сярэднія заробкі ў Беларусі.** Пры гэтым, як падае Міністэрства статыстыкі, найбольш адчувальныя страты проці жнівеньскага паказчыка панесьлі заробкі калгасьнікаў (адкат адразу на 15,2%), работнікаў саўгасаў (13,2%), чыгуначнікаў (11,3%), будаўнікоў (5,7%), камунальнікаў (3,8%) ды работнікаў прамысловасьці (2,7%).

**Па словах галоўнага камунальшчыка сп.Мількоты, у 2002 г. грамадзяне Беларусі павінны аплачваць ня меней за 40% ад сабекошту абслугоўваньня кватэраў,** або амаль у 1,3 разу болей, чым цяпер. Калі меркаваць па цяперашніх тарыфах на паліва і электрычнасьць, дык са студзеня за аднапакаёўку давядзецца плаціць 23000, двухпакаёўку — 34000, а трохпакаёўку — 47 тысяч рублёў.

**Камітэт дзяржкантролю зноў запатрабаваў ад прадпрымальнікаў мець дакумэнты, якія пацьвярджаюць набыцьцё і якасьць тавараў.** Дзе-ндзе на рынках з-за гэтага кантралёры пачалі канфіскаваць рэчы. У адказ гандляры Магілёва і Менску зьбіраюцца страйкаваць.

**Ужо падлічылі, што ў наступным годзе полацкія "Дажынкі" будуць каштаваць краіне 8 мільярдаў беларускіх рублёў,** ці 4 мільёны даляраў па курсе, які плянуе на гэты пэрыяд наступнага году Нацбанк (да 2000 руб. за даляр). На гэтыя грошы ў горадзе маюць адрамантаваць гатэль, дом культуры, кінатэатар, стадыён "Спартак", а таксама збудаваць амфітэатар (бышцам бы на схілах сьвятое Сафійскае гары) ды праваслаўную царкву. Ідэю пабудовы амфітэатру на Верхнім замку вылучыў старшыня Полацкага гарвыканкаму сп.Тачыла. Супраць выступае сп.Вушак, загадчык аддзелу культуры гарвыканкаму. Аргумэнты старшыні такія: схілы Сафійскага пагорку надта зручныя для разьмяшчэньня падобнага аб'екта, выгаднае месца і для тэлезьдымкаў — побач са Сьв.Сафіяй. Полацкая інтэлігенцыя ўспрыняла такую ідэю нэгатыўна: краязнаўца Міхась Баўтовіч паведаміў "Радыё Свабода", што палачане ў выпадку рашэньня аб будаўніцтве амфітэатру на Верхнім замку зьбіраюцца пратэставаць і прасіць рады ў эўрапейскай грамадзкасьці.

**Беларуская геолягі праз праграму Эўразьвязу ТАСІС атрымалі кампутары і іншую тэхніку на разьведку новых радовішчаў нафты.** Шукаць будуць найперш на Гомельшчыне.

**Задуму пабудаваць бізнэс-квартал на Грушаўцы ў Менску выказаў прадпрымальнік Юрась Данькоў.** Праект запатрабуе сама меней мільярда даляраў укладаньняў. Але, на думку сп.Данькова, будоўля можа абысьціся безь бюджэтных выдаткаў — маўляў, дастаткова толькі абвясьціць амністыю замежных капіталаў беларусаў.

**Сяржук Іваноўскі**

## Спорт

### *Атрымай, дзярэўня, трактар*

На мінулым тыдні ў кіёсках зьявіўся даведнічак "Футбол Беларусі-2001". У ім анансуецца сёлетні чэмпіянат Беларусі па футболе (які ўжо скончаецца) ды падаюцца вынікі эўрапейскіх чэмпіянатаў сэзону 1999—2000. Між тым, ужо амаль паўгоду, як мінуў чэмпіянат 2000—2001 г. Вось такая апаратыўнасьць.

**Аматар**

# БНФ напярэдадні Зьезду

*Сіўчык рыхтуе фронду, Сямдзянава і Янукевіч гатовыя пазмагацца за пасаду намесьніка старшыні*

**V Зьезд БНФ адбудзецца 15—16 сьнежня і працягнецца 2 дні. Ён мае ацаніць працу арганізацыі за два гады. Асабліва важным гэты Зьезд будзе для Вінцука Вячоркі — ён будзе трымаць справаздачу за першыя свае гады кіраваньня.**

На зьезьдзе не чакаецца нейкага вялікага канфлікту, бо ўнутры Фронту ніколі не было яўных ідэалягічных расколаў, а толькі тактычныя разыходжаньні. Асаблівасьць сытуацыі яшчэ і ў тым, што Вячорка не імкнецца стаць публічным нацыянальным лідэрам, засяроджваючыся на інтэлектуальнай працы і рэпрэзэнтаваньні партыі за мяжой. І, хоць партыі патрэбны публічны лідэр, відавочнай альтэрнатывы Вячорку пакуль ня выявілася.

Найбольш крытыкі на адрас Вячоркі выказваюць у рэгіёнах, і найперш у Горадні.

Домаш ад супрацоўніцтва з Фронтам ухіліўся. Менскія актывісты Фронту пэўны час агітавалі за неабходнасьць зьмяніць Вячорку на Алеся Бяляцкага, лічачы яго больш "пазнавальным" палітыкам. Аднак, ідэя, відаць, ня выклікала захапленьня ў самога Бяляцкага.

Пакуль акрэсьленае жаданьне паспаборнічаць зь Вячоркам заўважнае толькі ў "вечнага дысыдэнта" Вячаслава Сіўчыка. Падчас расколу Фронту ў 1999 г. Сіўчык толькі ў апошні момант ускочыў у цягнік "абнаўленцаў". Непрыяцелі вытлумачваюць новую фронду Сіўчыка досыць празаічна. Рэч у тым, што цяпер у старшыні БНФ зашмат намесьнікаў, кампэтэнцыя кожнага зь якіх размытая. Таму ўсе адзінадушныя ў тым, што адным з галоўных пытаньняў зьезду будзе перавызначэньне колькасьці намесьнікаў і пераакрэсьленьне кампэтэнцыі кожнага зь іх. Сіўчык адчувае, што ў новай структуры месца для яго можа і не застацца. Вось ён, маўляў, і рыхтуецца сысьці гучна (шанцаў на перамогу мае мала), каб прыстаць да берагу ў адным з новых палітычных утварэньняў, што маюць паўстаць на правым і левым флянгу беларускага палітычнага спэктру.

На паседжаньні Сойму 20 кастрычніка вызначылі сыстэму вылучэньня кандыдатаў на Зьезд. Новая сыстэма такая: кандыдаты будуць абірацца на сходах сяброў партыі БНФ, якія пройдуць у 15 буйных гарадох Беларусі (актыўных членаў партыі цяпер, мусіць, каля 2,5 тыс. чалавек). Партыйцы, якія жывуць у суседніх гарадох і мястэчках, маюць зьехацца ў мясцовасьць, дзе адбудзецца сход, і ад кожных пяцёх сяброў БНФ будзе вылучаны адзін кандыдат. Такая сыстэма падагнаная пад патрабаваньні Міністэрства юстыцыі.

Сярод зьменаў — скасаваньне асобнай квоты для дэлегатаў ад Маладога Фронту. Гэта будзе мець вынікам тое, што ў П.Севярынца будзе меншы ўплыў на агульны ход Зьезду (і гэта ўдар па пазыцыях В.Сіўчыка, да якога блізкі лідэр маладафронтаўцаў). Таксама зьменшыцца ўплыў дробных рэгіянальных кіраўнікоў.

На ганку сядзібы на Варвашэні, 8 пагаворваюць таксама, што цікавае спаборніцтва разгорнецца на зьезьдзе за пасады намесьнікаў старшыні. Апроч цяперашніх лідэраў, на вакантныя месцы маюць прэтэндаваць старшыня кірaўнічае камісіі Сойму, былая дэпутатка Вярхоўнага Савету ад Навагрудку Галіна Сямдзянава і былы в.а. старшыні Маладога Фронту ў часе зьняволеньня П.Севярынца Аляксей Янукевіч.

Дробнасьць гэтых канфліктаў паказвае, што Фронт пакуль ня вызначыў сабе на бліжэйшую будучыню вялікіх задачаў. Зрэшты, калі ж, як не на зьезьдзе, прымаць сэнсацыйныя рашэньні — вылучаць новых лідэраў, ствараць новыя "таварныя знакі", новыя праграмы?



Вінцук Вячорка (зьлева) і Вячаслаў Сіўчык

Перамогшы на выбарах, А.Лукашэнка ўсімі сіламі імкнецца вырваць у Эўропы прызнаньне. Таму ён фактычна ўзяў на ўзбраеньне эканамічную праграму апазыцыі. Палітычная рыторыка рэжыму памянялася таксама. Урад Навіцкага — ня толькі самы магілёўскі, але і самы "правы" за гісторыю краіны. Нават урады БНР былі больш сацыялістычнымі! Засталося зьмяніць культурную палітыку і партыйна-палітычную сыстэмы.

Апазыцыя, стварагучы ўражаньне, была негатовая да такога павароту падзеяў. Яна яшчэ не ўсьвядоміла, што ёй напрасто ўпісацца ў новую сытуацыю, якая паціху вымалёўваецца. На парадку дня стаіць перавызначэньне яе сацыяльнай базы, праграмы. "Чаго мы хочам зараз?" - ад адказу на гэтае пытаньне залежыць посьпех сьнежаньскага зьезду. Ад адказу залежыць і незваротнасьць зьменаў, што адбываюцца ў краіне апошнім часам.

Пакуль найбольш верагодна, што БНФ проста абмяжуецца вылучэньнем больш радыкальнай эканамічнай і палітычнай праграмы, чым урадавая.

На думку Алеся Міхалевіча, сябра Сойму БНФ, галоўным вынікам V зьезду мусіць стацца большая гатоўнасьць партыі і руху да стварэньня шырокай нацыянальна-дэмакратычнай кааліцыі тых сілаў, якія выступаюць за байкот меркаваных выбараў у "саюзны парлямэнт". Ён мяркуе, што ва ўмовах, калі большасьць былых саюзьнікаў па "шырокай грамадзянскай кааліцыі" мае намер узяць удзел у такіх выбарах, калі яны ўсё ж адбудуцца (а гэтага ня хоча, лічы, ніводная палітычная сіла краіны, не выключаючы і лукашэнкаўцаў), такі байкот стаў бы добрай нагодай для ўзмацненьня зьбліжэньня БНФ "Адраджэньне" з Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыяй БНФ і драбнейшымі правымі групоўкамі.

**Мікола Бугай**

## Навіны за тыдзень

### Паўстае новая партыя

**Калі на зьезьдзе Народнай Грамады апанэнтам Міколы Статкевіча ня ўдасца дабіцца нулявога варыянту — у старшыні не вылучаюцца ні Статкевіч, ні Кароль — апазыцыя гатовая правесьці свой зьезд, каб на ім закласьці новую партыю.** Ужо на гэтым тыдні пройдуць паседжаньні суполак, якія маюць абраць дэлегатаў. Каб зарэгістраваць партыю, трэба 1000 чалавек, Аляксей Кароль не сумняецца, што кворум будзе. Ён жа ўзначаліць новую партыю, калі на старшыню адмовіцца балятавацца Мечыслаў Грыб. Учора ў Горадні ўсе мясцовыя партарганізацыі байкатавалі абласную канфэрэнцыю, якую склікаў Статкевіч.

### ЗБС зачыняюць

**Задзіночаньне Беларускіх Студэнтаў, якое вядзе гісторыю ад 1989 г. і налічвае 2 тыс. сяброў, можа быць зачыненае.** За год ЗБСаўцы атрымалі аж 5 папярэджаньняў ад Мінюсту. Нягледзячы на адно абскарджанае ў судзе, астатніх дастаткова, каб зачыніць арганізацыю. Кіраўнічка Крысьціна Вітушка (дзяв. Сідун) лічыць, што актыўны ціск усчаўся пасьля таго, як ЗБСаўцы пачалі высьвятляць, ці адпавядае беларускаму заканадаўству прымусовае разьмеркаваньне студэнтаў ВНУ.

### Улады сканфіскуюць у насельніцтва частку зброі

**Палата прадстаўнікоў у аўторак зь пятага заходу адобрыла праект закону аб зброі.** Дасьведчаныя асобы лічаць спрэчным наступны параграф: "Баявая зброя (акрамя ўзнагароднай), якая знаходзіцца ва ўласнасьці грамадзянаў, падлягае канфіскацыі на адплатнай аснове ў парадку, што вызначаецца прэзыдэнтам краіны".

**Эдвард Людовіч**

# "Волга" пад Ганцавічамі

**На радыёлякацыйнай станцыі (РЛС) "Волга", што паблізу Ганцавіч, галоўнай расейскай вайсковай базе ў Беларусі, распачаліся чарговыя выпрабаваньні.**

Будаўніцтва РЛС "Волга" распачалося яшчэ ў 1982 г. У 1991-м Беларусь замарозіла будоўлю, але праз год пад ціскам Расеі будоўля аднавілася. Праўда, у 1993 г. ужо самі расейцы на год спынілі працу: скончыліся грошы.

У 1995 г. паміж Беларусяй і Расеяй было падпісана пагадненьне, згодна зь якім уся маёмасьць на тэрыторыі РЛС і сам пляц пераходзяць Расеі на 25 гадоў — бязвыплатна. Між тым, за арэнду такой сама станцыі ў Скрундзе Расея плаціла Латвіі 5 млн. даляраў штогод, але нават за гэткія грошы латышы не захацелі трываць на сваёй тэрыторыі падобны аб'ект, палітычна і экалягічна небясьпечны: ледзьве скончыўся тэрмін арэнды, яны ўзарвалі РЛС.

РЛС гатовая да эксплюатацыі на 95%. Сёлета расейскія Касьмічныя войскі наладжваюць сыстэму папярэджаньня ракетнага нападу. Выпрабаваньні будуць цягнуцца да сярэдзіны сьнежня. А ў наступным годзе РЛС "Волга" заступіць на баявое дзяжурства. Яна будзе адсочваць пускі любых ракет на тэрыторыі Эўропы ў радыюсе 4800 км.

РЛС абслугоўваюць выключна расейскія вайскоўцы, а інфармацыя зь яе накіроўваецца адразу ў Маскву. Скарыстацца вынікамі працы "Волгі" ўлады Беларусі ня могуць.

Баранавіцкія анколягі непакояцца, што пасьля ўвядзеньня станцыі ў дзеяньне павялічыцца колькасьць ракавых захворваньняў сярод жыхароў Ганцавіччыны.

**М.Б.**

# Зьмея прыбралі

*Сьвяткаваньне 80-годзьдзя БДУ будзе не такім шыкоўным, як меркавалася*

**Сьвята мусіла стаць самым шыкоўным упрыгожаньнем сёлетняй восені. БДУ меў велічэзныя пляны: арэнда Палацу Рэспублікі не некалькі дзён, арэнда двух (!) гелікоптэраў, якія мусілі раскідваць сьвяточныя ўлёткі над горадам, запрашэньне зорак расейскае папсы (у прыватнасьці, Кіркорава), некалькі гіганцкіх студэнцкіх дыскатэк.**

Рэкляма футбольнага матчу паміж зборнай "зорак" расейскай эстрады й беларускай камандай, складзенай з нашых "зорак" і каманды КВЗ БДУ, даўно ўжо мазоліць вочы пасажырам мэтро. Да юбілею БДУ прымеркавана канцэрт рок-гурту "Чайф". На некалькі дзён унівэрсытэт мусіў сысьці на своеасаблівыя вакацыі — не працаваць, не навучацца, а толькі гуляць ды сьвяткаваць. Словам, проста казка нейкая ці песьня. А ва ўнівэрсытэцкім дворыку мусіла паўстаць новая скульптура. Помнікі — своеасаблівая візытоўка БДУ: у дворыку стаіць Эўфрасіньня Полацкая, сядзяць Францішак Скарына, Мікола Гусоўскі і параю Сымон Будны ды Васіль Цяпінскі. (Дарэчы, Эўфрасіньня ня толькі стаіць, яна яшчэ трымае ***на адной руцэ*** кнігу. Ведаючы, што кнігі таго часу, пісаныя на пэргамэне ды з драўляным пераплётам і такой самай вокладкай, важылі некалькі кілаграмаў, можна зазначыць: магутная была баба!). Новым помнікам будзе ўганараваны Кірыла Тураўскі. І гэта будзе адзіны "стаячы" мужчынскі помнік на ўнівэрсытэцкім падворку.

У чаканьні юбілейных бакханаліяў унівэрсытэцкі дворык упрыгожыла адмысловая інсталяцыя — голае сукаватае дрэва з разьвешанымі на ім шарамі з назовамі факультэтаў. Аднак прастаяла яна толькі два дні.

Пляны рэктара Казуліна парушыліся: неўзабаве пасьля выбараў 9 верасьня БДУ страціў ранейшыя прывілеі, а праграму сьвяткаваньня, як кажуць, падрэдагаваў асабіста Лукашэнка. Былі "выкрасьленыя" гелікоптэры, арэнда Палацу Рэспублікі, колькасьць дыскатэк скарацілася да аднае.

"Імпэрыя БДУ" пачала разбурацца на вачах. Неўзабаве пасьля скасаваньня "міністэрскага" статусу ўнівэрсытэту адбылася такая сцэнка. На паседжаньні рэктарату Аляксандар Казулін, які да гэтага часу ўваходзіў у склад ураду, абвясьціў, што яго (а разам з тым і БДУ) "панізілі".

— І выдатна, цяпер вам не давядзецца столькі часу марнаваць на ўрадавых пасяджэньнях, — выказаўся нехта з падхалімаў.

— Ну што ж, тады й вялікага сьвяткаваньня таксама наладжваць ня будзем. Абмяжуемся толькі ўнівэрсытэцкімі чытаньнямі! — пажартаваў у адказ рэктар.

Тады ён яшчэ ня ведаў, наколькі блізкае да праўды будзе ягонае выказваньне.

У кіраўніцтве БДУ запанавала разгубленасьць. Ранейшы непадкантрольны статус (Белдзяржунівэрсытэт папярэдне быў вызвалены ад выплаты ***ўсіх*** падаткаў) пачаў паграhouseholds... 

Пачаў паграджаць непрыемнасьцямі. Сытуацыя ўзмацнялася няпэўнасьцю на ўрадавых колах: доўгі час было невядома, хто стане міністрам адукацыі — зьверхнікам над БДУ.

Тым часам праграма сьвяткаваньня працягвала зьмяняцца: скасавалі меркаваны канцэрт Кіркорава, юбілейнае ўрачыстае пасяджэньне перанесьлі ў залю Опэрнага тэатру. Інсталяцыя зь яблыкамі-факультэтамі на дрэве відавочна ўспрымалася зусім не як райскае дрэва пазнаньня, хоць для ўзмацненьня "райскай" аналёгіі на дрэва паклалі зялёнага зьмея.

Прызначэньне новага міністра адукацыі дадало нотку гістэрыкі ў перадсьвяточны ажыятаж. А як жа ж! Пятро Брыгадзін, колішні падначалены Аляксандра Казуліна, стаў вышэйшы за свайго былога шэфа. Дый намесьнікам новага міністра адукацыі стаў Аляксандар Жук — пераемнік Брыгадзіна на пасадзе першага прарэктара БДУ.

Любоў да помнікаў — не адзіная "незвычайная" прыхамаць Аляксандра Казуліна. Другая — нежаданьне гутарыць з журналістамі. Усе інтэрвію, якія зьяўляюцца ў прэсе, — вынік працы ўправы аналітычнай работы БДУ, якая рыхтуе пісьмовыя адказы на загадзя пададзеныя пісьмовыя пытаньні. Кажуць, што прычына такой нелюбові Аляксандра Казуліна да журналістаў — у даўнім прэсавым скандале вакол абароны ягонай доктарскай дысэртацыі. Таму той факт, што напярэдадні юбілею ўсё ж быў арганізаваны брыфінг для журналістаў і прэсавая канфэрэнцыя, можна расцаніць як адчуваньне няўтульнасьці і няміласьці ў вышэйшай улады. Галоўнае ж у Казуліну — ягоная незвычайная схільнасьць да бізнэсу. БДУ пры ім стаў з проста ўнівэрсытэту трыццаткам юрыдычных асобаў! Пад яго дахам працуюць мадэльнае агенцтва Сашы Варламава, расейскамоўная FM-станцыя "Юністар", тэатар "На бальконе" і г.д. Толькі замежныя студэнты летась прынесьлі ў касу ўнівэрсытэту 700 тыс. даляраў. Казулін адрамантаваў біяфак, фізфак і геафак, два інтэрнаты, пабудаваў яшчэ адзін. Ён перамог "Макдональдз" у барацьбе за пляц на Прывакзальнай плошчы. Пры ім унівэрсытэт стаў падобны да ўнівэрсытэту па сваім багацьці. Адбылася паўнавартасная камп'ютарызацыя.



Аляксандар Казулін

Інсталяцыя прастаяла ў першапачатковым выглядзе нядоўга: шарыкі з назовамі факультэтаў паздымалі, а зьмея прыбралі. Унівэрсытэт стаіўся ў прадчуваньні зьмяншэньня заробкаў і прэміяў.

**Аркадзь Шанскі**

# Касмэтычны рамонт у кішэнях пэнсіянэраў



ДЗЯНІС РАМАНЮК

**Узрост выхаду на пэнсію будзе павялічвацца на 6 месяцаў штогод. Працуючыя пэнсіянэры будуць вымушаныя выбіраць між зарплатай і пэнсіяй. Назапашвальныя пэнсійныя фонды пакуль не заменяць цяперашняй "салідарна-разьмеркавальнай" сыстэмы. Стварэньне больш эфэктыўнай пэнсійнай сыстэмы залежыць ад паляпшэньня адносінаў Беларусі з Захадам.**

Яшчэ ў сярэдзіне 1980-х кожная бабуля мела за справу гонару адкладаць з пэнсіі "дзясятку" сыну на "Масквіч" і рубель унуку на цукеркі. Цяпер ужо ня тое. Сярэдняя пэнсія ў 69 тысяч рублёў кампэнсуе толькі 4/5 мінімальных спажывецкіх выдаткаў. Таму калі няма больш-менш заможных сваякоў, няма й выбару. Застаецца або пераходзіць на хлеб ды малако, або ісьці зьбіраць пустыя пляшкі, або да скону ня бачыць прасьветліны ад працы на гародзе. Самае сумнае, што пры захаваньні цяперашняй пэнсійнай сыстэмы нейкіх лепшых варыянтаў для пэнсіянэраў не прадбачыцца, нават калі Беларусь выкараскаецца з эканамічнага крызысу.

Пэнсійная сыстэма Беларусі пабудаваная на простым прынцыпе "салідарнасьці пакаленьняў". Сэнс яго такі. Сын, што працуе цяпер, павінен адлічваць частку заробку ў Пэнсійны фонд на выплату пэнсіі бацьку. Прыйдзе новае пакаленьне, і ўжо сын стане ўтрыманцам свайго нашчадка. Так сапраўды магло б працягвацца да бясконцасьці, калі б не дэмаграфічныя зьмены. Сем'і сталі заводзіць меней дзяцей, насельніцтва імкліва "старэе". "Ціск" на працоўную частку насельніцтва ўзрастае.

Статыстыка падае, што за апошняе дзесяцігодзьдзе колькасьць занятых у эканоміцы Беларусі зьменшылася на 15%, у той час як пэнсіянэраў наадварот пабольшала на 12%. Таму калі ў 1990 г. на аднаго пэнсіянэра ў краіне прыпадала 2,2 працоўнага, то цяпер — 1,6. Пры такой нараджальнасьці, як цяпер, надзеі на паляпшэньне сытуацыі няма. Недзе ў 2015 г. адзін працоўны павінен будзе забясьпечваць аднаго пэнсіянэра. А далей Беларусь пярэйдзе мяжу, за якой вырашыць праблему годных пэнсій немагчыма стане нават звышрадыкальнымі захадамі — з улікам дзяцей каля 70% насельніцтва краіны будуць утрыманцамі. Вядома, хаця б на нейкі час пэнсійны абвал магло б стрымаць падвышэньне адлічэньняў у Пэнсійны фонд з заробкаў працоўных грамадзянаў. Скажам, замест цяперашніх 35% ад заробку пераводзіць туды ўсе 50. Але ня трэба быць прафэсійным эканамістам, каб разумець, што такі цяжар ня здольная вытрымаць ніводная эканоміка ў сьвеце. Да таго ж, ужо цяпер відавочна, што нават пры новай стаўцы грошай у кішэнях беларускіх пэнсіянэраў усё адно больш ня стане.

Пагрозу заўважылі ня сёньня, размовы пра рэфармаваньне пэнсійнай сыстэмы ў Беларусі чуваць даўно. Чатыры гады таму ўрад Лінга абвясьціў, што пэнсіі мусяць калі-небудзь падзяліцца на сацыяльныя (гэты мінімум гарантуецца кожнаму й аплачваецца зь бюджэту), страхавыя (назапашаныя ў Пэнсійным фондзе) ды дадатковыя недзяржаўныя. Амаль усе пагаджаюцца, што хібаў у сыстэме "салідарных пэнсіяў" аж зашмат. Папершае, яны цалкам залежаць ад "бягучага стану справаў" у эканоміцы. Можна ўсё жыцьцё акуратна сплачваць грошы ў Пэнсійны фонд, а ў выніку атрымаць мізэр, паколькі ў гэты момант у краіне малыя заробкі ды крызыс выплатаў. Па-другое, цяпер адлічэньні фармальна робяцца "ад усіх і для ўсіх", але пры гэтым дзяржава вызначыла, што былы работнік апарату ЦК КПБ чамусьці мае перавагу над былым прафэсарам, а шахцёр — над калгасьнікам. Мала таго, з супольнага фонду фінансуюцца ня толькі шматлікія льготы, але таксама сацыяльныя праграмы, якія дачыненьня да пэнсій увогуле ня маюць — зь яго кампэнсуюцца пуцёўкі ў санаторыі, дапамогі на дзяцей ці выплаты інвалідам.

Нарэшце, галоўнае. "Салідарна-разьмеркавальная" сыстэма не пасуе да беларускіх умоваў ужо таму, што яе нерэальна прыстасаваць да новых дэмаграфічных рэалій. Стварыць нейкія рэзэрвы пэнсійных грошай можна толькі тады, калі працоўныя цяпер пераказваюць іх на асабістыя рахункі. Кажучы інакш, калі яны пачынаюць назапашваць сабе пэнсію самі.

Сёлета беларус зь "сярэднестатыстычным" заробкам сплачвае на пэнсіі каля 300 даляраў у год. Уявім сабе сытуацыю, што дзьве траціны ад гэтай сумы ён па-ранейшаму аддае ў супольны Пэнсійны фонд на "салідарныя пэнсіі", а траціну пакідае "для сябе". У выніку атрымаецца, што калі пералічваць штогод на асабісты рахунак тыя ж 100 даляраў і класьці іх у банк пад 10% (сярэдні працэнт для валютных укладаньняў), то праз 40 гадоў на рахунку будзе ўжо 48600 даляраў. Гэтых грошай безумоўна хопіць гадоў на дваццаць заможнага жыцьця на пэнсіі. Можна зьняць назапашаныя грошы і трымаць дома, "выплачваючы" сабе 200 даляраў у месяц. А можна пакінуць на рахунку і жыць, карыстаючыся з працэнтаў. Тады на год атрымаецца 5346 даляраў, а на месяц — 445,5. Як кажуць, ужо штосьці.

Сутнасьць сыстэмы назапашвальных пэнсійных фондаў вельмі простая: чалавек сам зьбірае грошы САБЕ на будучую пэнсію. Толькі не кладзе іх у банк асабіста, а робіць гэта праз спэцыяльны Пэнсійны фонд, які лепей апякуецца грашыма, лепей ведае, куды іх выгадней укладаць і дзейнічае пад кантролем і страхоўкаю дзяржавы, каб не было так, што банк лопнуў і чалавек застаўся бяз грошай на пражыцьцё ў старасьці.

Выгада для пэнсіянэраў быццам бы відавочная. Але для будучых, а не цяперашніх. Для цяперашніх такі пераход азначаў бы аўтаматычнае зьмяншэньне пэнсіяў на траціну. Каб такога не адбылося, дзяржаве патрэбныя дадатковыя грошы. Знайсьці іх можна двума спосабамі. Скарачэньнем дзяржаўных выдаткаў — а яны і так не вялікія. Або пошукам замежных крэдытаў, а іх Беларусь не атрымлівае з-за дрэнных адносінаў з Захадам. Таму перайсьці на назапашвальную сыстэму ў Беларусі пакуль не наважваюцца.

Акрамя кампэнсацыі стратаў 33% адлічэньняў цяперашнім пэнсіянэрам, ёсьць і іншая складнасьць: як абараніць ашчаджаныя на рахунках сродкі ад усялякіх "чорных аўторкаў" ды "жнівеньскіх дэфолтаў"? На сёньня адносна абароненымі могуць лічыцца толькі інвэстыцыі сродкаў у кампаніі ці банкі Заходняй Эўропы і ЗША (хоць там працэнтная стаўка па ўкладаньнях ніжэйшая за ўнутрыбеларускую). Але дзеля гэтага зноў ужо патрэбныя іншыя афіцыйныя стасункі з Захадам. Дый для пошуку грошай на ажыцьцяўленьне рэформы краіне, відаць, не абысьціся без заходніх крэдытаў. Пакуль адносіны з Захадам не наладзяцца, пэнсійная рэформа можа быць хіба што "касмэтычным рамонтам" без адчувальнага выніку.

Аб'яднаньне Міністэрстваў працы й сацыяльнай абароны, якое адбылося ў верасьні, ніяк не назавеш выпадковым. Наваствораны "гібрыд" узначаліла вядомая досыць лібэральнымі поглядамі сп.Морава. Можна меркаваць, што ў краіне рыхтуюцца "непапулярныя меры", якія мусяць паслабіць "ціск" пэнсіянэраў на эканамічна актыўнае насельніцтва.

Мераў такіх чакаецца некалькі. Паколькі спадзяванка заахвоціць адтэрміноўку выхаду на пэнсію (меркавалася за кожныя два месяцы "пасьляпэнсійнай" працы падвышаць памер пэнсіі на 1%) аказалася проста эканамічна нявыгаднаю, пэўна, што пэнсійны век падвысяць прымусова, хаця і паступова — па 6 месяцаў штогод на працягу 5 гадоў. Зьмены закрануць і парадак ільготнага выхаду на пэнсію. "Датэрміновыя пэнсіі" ня зьнікнуць, аднак з цягам часу іх пачнуць плаціць са спэцыяльна створаных галіновых пэнсійных фондаў, якія будуць фінансавацца прадпрыемствамі, што выкарыстоўваюць працу ў шкодных умовах. А працоўныя пэнсіянэры будуць выбіраць паміж уласна пэнсіяй і зарплатай. Выняткам зробяць толькі для вяскоўцаў, бо інакш тыя хутка разьбягуцца са сваіх калгасаў, школак і фэльчарска-акушэрскіх пунктаў.

І ўсё ж без пераходу да назапашваньня грошай на асабістых рахунках агонія беларускай пэнсійнай сыстэмы толькі расьцягнецца. Рашыцца на радыкальную пэнсійную рэформу ўрад пакуль ня можа, бо калі прыме рашэньне аб пачатку такой рэформы, дык можа адбыцца сапраўдны сацыяльны выбух. Але ў выпадку паляпшэньня адносінаў з Захадам такі пераход можа адбыцца.

**Сяржук Іваноўскі**

## Навіны за тыдзень

### Урад абяцае беспрэцэдэнтнае спрыяньне прыватнай ініцыятыве

**Урад Беларусі падрыхтаваў "сур'ёзны пакет дакумэнтаў па лібэралізацыі эканомікі". Пра гэта паведаміў прэм'ер Навіцкі.**

Паводле яго словаў, Савет Міністраў мае рэзка скараціць колькасьць відаў гаспадарчай дзейнасьці, якія падлягаюць ліцэнзаваньню. Ён таксама дазволіць рэгістрацыю прыватных унітарных прадпрыемстваў па месцы жыхарства фізычнай асобы, адменіць працэдуру перарэгістрацыі суб'ектаў гаспадараньня. Каб спрасьціць рэгістрацыю, яе зараз будуць ажыцьцяўляць таксама Берасьцейскі, Віцебскі, Гомельскі, Гарадзенскі, Магілёўскі гарвыканкамы. Спросьцяць і працэдуру ліквідацыі прадпрыемстваў. Прычым усе гэтыя прапановы будуць падрыхтаваныя за тыдзень.

Урад таксама скасаваў патрабаваньне дэклараваць крыніцы інвэстыцый у прадпрыемствы памерам да 10 000 даляраў ЗША ў грашовай форме.

### Навіцкі зьвязвае надзеі з заходнім, а ня ўсходнім рынкам

**Эканамічныя надзеі беларускага ўраду зьвязаныя з заходнімі рынкамі. Ніводзін урад Беларусі ад 1991 г. не заяўляў такога адкрыта.**

У пятніцу прэм'ер Навіцкі сустрэўся з новым амбасадарам Нямеччыны ў Менску Гельмутам Фрыкам і заявіў яму, што двухбаковыя стасункі маюць добрыя пэрспэктывы для разьвіцьця. Навіцкі нават выказаў спадзяваньне, што беларуска-нямецкія дачыненьні будуць заўважна прасунуты наперад, а сп.Фрык у адказ заявіў, што дзьве краіны могуць "дасягнуць новага прагрэсу" на ўсіх напрамках.

Выступаючы ў нацыянальным сходзе, Навіцкі падкрэсьліў, што Беларусь мусіць настойліва прабівацца на заходнія рынкі. "Сёлета, — адзначыў ён, — нашыя экспартэры пачынаюць замацоўвацца на рынках такіх разьвітых краінаў, як Нямеччына, Польшча, Італія, Вялікая Брытанія, Нідэрлянды. Гэта стратэгія нашага ўраду, і зрабіць мы мусім усё магчымае для яе рэалізацыі дзеля падвышэньня канкурэнтаздольнасьці айчыннае прадукцыі". Пра супрацоўніцтва з краінамі-суседзямі прэм'ер пачаў распавядаць з Украіны, а наконт Расеі выказаўся за прамыя сувязі з рэгіёнамі.

З расейскім пасолам сп.Навіцкі пакуль не сустракаўся.

### Аўтобус даражэе

Як паведаміў першы намесьнік міністра транспарту й камунікацыяў Васіль Чалоўскі, з панядзелка **цана квіткоў на прыгарадных і міжгародных маршрутах аўтобусаў падвышаецца на 30%.**

**Б.Т.**

## Як у іншых? Пэнсійныя рэформы ў суседзяў

**Пэнсійныя пераўтварэньні аказаліся няпростымі ва ўсіх краінах Усходняй Эўропы й СНД. Тым ня менш, амаль паўсюль паступовы пераход ад тыпова сацыялістычнай разьмеркавальнай сыстэмы да назапашвальнай ужо распачаўся ці распачнецца ў блізкім часе.**

### ПОЛЬШЧА

У Польшчы старая сыстэма спыніла існаваньне 1 студзеня 1999 г., бо ўрад падлічыў, што з прычыны дэмаграфічнага крызысу за наступныя 50 гадоў, калі захаваць старую сыстэму, пэнсійныя выдаткі мусілі б узрасьці з 15 да 27% ад валавога ўнутранага прадукту краіны. Цяпер пэнсія кожнага польскага "эмэрыта" складаецца зь дзьвюх асноўных доляў.

Адна яе частка залежыць ад "капіталу", што здолеў назьбіраць работнік падчас сваёй працоўнай кар'еры. Гэты капітал дзеліцца на сярэднюю колькасьць гадоў, якую, паводле статыстыкі, чалавеку застаецца пражыць у якасьці пэнсіянэра, і выплачваецца. Гэты парадак стаўся прымусовым для ўсіх, хто на пачатак рэформы меў меней за 30 гадоў. Хто меў тады болей за 50 гадоў, у будучыні мусіць атрымліваць пэнсіі на ўмовах разьмеркаваньня, таму для іх захоўваецца ранейшы Пэнсійны фонд. Людзі ад 30 да 50 гадоў могуць выбіраць самі, выплачваць ім унёскі па-старому, у Разьмеркавальны пэнсійны фонд, або перайсьці на Назапашвальны пэнсійны фонд.

Другая частка пэнсіі мае выгляд абавязковых складак у прыватныя пэнсійныя фонды. Любы такі фонд кожны паляк павінен абраць для сябе самастойна. Існуе такіх фондаў шмат.

### ЛІТВА

Літоўскія пэнсіі таксама складаюцца зь дзьвюх частак. Першая фінансуецца бягучымі адлічэньнямі ці падаткамі і гарантуецца дзяржавай для ўсіх. Другая частка пэнсіі выплачваецца з тых грошай, што назапашваюцца кожным чалавекам самастойна, прычым пераважна ў недзяржаўных пэнсійных фондах. Адметнасьць Літвы ў тым, што тут сродкі прыватных пэнсійных фондаў звычайна ўкладваюцца ў акцыі за мяжой. За гэтымі інвэстыцыямі жорстка сочыць дзяржава.

### РАСЕЯ

Расейская пэнсійная рэформа возьме адлік з 1 студзеня 2002 г. Палову ад цяперашніх сацыяльных адлічэньняў, што складаюць 24% ад заробкаў, тут плянуюць пакідаць на разьмеркаваньне, г.зн. выплату пэнсій па старой сыстэме, а другую палову — накіроўваць на асабістыя пэнсійныя рахункі. З 2002 г. назапашаныя сродкі могуць інвэставацца ў акцыі расейскіх прадпрыемстваў, а з 2003 г. — і ў замежныя актывы.

Разам з тым у рэформы "па-расейску" ўжо цяпер ёсьць шмат апанэнтаў, што апэлююць найперш да "асаблівасьцяў нацыянальнага мэнталітэту". Рэч у тым, што расейская дзяржава не зьбіраецца жорстка кантраляваць рух назапашаных пэнсійных капіталаў, а таму левая апазыцыя непакоіцца, што тым самым ва ўмовах крыміналізаванай расейскае эканомікі зьяўляецца неабмежаваная прастора для самых розных махінацыяў і злоўжываньняў.

**С.І.**

## Навіны Ўкраіны
# Паўднёвы сусед зьвярэе

**Жыхары Банковай вуліцы Кіева, дзе месьціцца Адміністрацыя прэзыдэнта, перапужаныя нашэсьцем пацукоў.** Кажуць, што, разбудоўваючы цэнтар украінскае сталіцы, зварушылі іхныя гнёзды. А жартаўнікі сьмяюцца, што пацукі бягуць менавіта з Адміністрацыі. І гэта не адзіны эксцэс, зьвязаны з жывёльным сьветам украінскае сталіцы: з пачатку году сабакі пакусалі 6500 кіеўлянаў. Да праблемаў зь "меншымі братамі" на мінулым тыдні дадалася экалягічная катастрофа — на левым беразе Дняпра вылілася велізарная колькасьць іртуці. Не дадае украінцам аптымізму й эканамічнае становішча. Інвэстыцыі ў краіну цякуць павольна. За мінулы год на прыватызацыі зарабілі толькі 2 млрд. грывень замест меркаваных 5,6 млрд. (за адзін даляр даюць 5,3 грыўні). Пра непрывабнасьць украінскіх прадпрыемстваў для замежных інвэстараў сьведчыць тое, што Львоўскі аўтазавод, вытворцу легендарных ЛАЗікаў, прадалі ўсяго за 30 млн. грывень. А ў дадатак ідзе сапраўдны абвал і на фондавым рынку. Акцыі ўкраінскіх прадпрыемстваў за мінулы тыдзень упалі ў цане ў сярэднім на 10—15%.

## Чарнагорыя
# Рэфэрэндум аб незалежнасьці

**У пятніцу прэзыдэнты Югаславіі ды Чарнагорыі — В.Каштуніца й М.Джуканавіч вырашылі вясной правесьці ў Чарнагорыі рэфэрэндум аб незалежнасьці краю.** Красавіцкія выбары паказалі, што прыхільнікаў самастойнасьці там болей, чым праціўнікаў. Цяпер толькі ўсеагульны рэфэрэндум можа вырашыць, ці хочуць чарнагорцы заставацца ў саюзе.



Каштуніца (зьлева) і Джуканавіч

## Мяжа
# На Дзяды ў Польшчу бяз ваўчэраў

**У сувязі з Дзядамі з 24 кастрычніка да 4 лістапада парадак уезду ў Польшчу будзе спрошчаны.** 12 дзён беларускія грамадзяне змогуць трапляць на польскую тэрыторыю проста на падставе замежнага пашпарту й даведкі ад Чырвонага Крыжа пра тое, што ў Польшчы ёсьць магілы іхных сваякоў.

**Сяргей Рак**

## Нямеччына
# Даведнік пра Беларусь

**У нямецкім выдавецтве *Vandenhoek&Ruprecht* выйшаў "Даведнік па гісторыі Беларусі" аўтарства нямецкіх прафэсараў Дытрыха Байрава і Райнэра Ліндnэра.** Кніга вялікая (больш за 500 старонак) і нятанная — 152 маркі (каля 70 даляраў), выклікала цікавасьць падчас міжнароднага кніжнага кірмашу ў Франкфурце-на-Майне.

## Навіны Віленшчыны
# Землямеры наводзяць рэкеціраў

**Газэта *Lietuvos Rytas* распавяла, як чыноўнікі-геадэзісты ў Віленскім павеце "здавалі" злачынцам тых, хто спрабаваў дамагчыся ад дзяржавы вяртаньня зямлі, што належала ім да другой сусьветнай вайны. Дагэтуль выяўлена больш за 50 гэткіх справаў.**

Супрацоўнікі аддзелу геадэзіі за грошы інфармавалі мафію, хто мае права на вяртаньне зямлі і колькі яму належыць, а мафіёзі змушалі законных уладальнікаў перапісваць зямлю на сябе. Злачынцы прыходзілі да прэтэндэнтаў і абвяшчалі, што за колькі тысячаў літаў яны прысьпешаць працэс вяртаньня зямлі. Пасьля падрыхтоўкі дакумэнтаў злачынцы зьяўляліся зноў і патрабавалі, каб зямлю перапісалі на іх, ды пужалі, што інакш паведамяць паліцыі пра хабар. Гвалту не выкарыстоўвалі і, калі нехта адмаўляўся аддаць зямлю, задавальняліся й некалькімі тысячамі літаў за маўчаньне. Большасьць пацярпелых — палякі.

Праваахоўныя органы натрапілі на сьлед злачынцаў выпадкова — рэагуючы на абвінавачаньне ў падробцы дакумэнтаў, вылучанае супраць віленскага аддзелу геадэзіі.

У гэтую справу замяшаная адна з самых вядомых віленскіх злачынных груповак — "дамбраўскасы" (назва паходзіць ад імя аднаго зь ейных лідэраў), вядомая сваёй схільнасьцю да інтэлігентных злачынстваў і непрыхільнасьцю да гвалту. Найчасьцей гаворка ішла пра ўчасткі ў прэстыжных раёнах Вільні, накшталт Антокаля. Тамака за лапік зямлі памерам 10—20 сотак трэба плаціць каля 100 тысячаў даляраў.

Вяртаньне зямлі законным уладальнікам у Віленскім краі ўжо даўно сталася праблемай. Пасьля аднаўленьня незалежнасьці летувіскія ўлады не прызнавалі польскіх дакумэнтаў на ўласнасьць, выдадзеных перад вайной, кажучы, што Віленшчына была акупаваная Польшчай, а дакумэнты акупацыйнае ўлады сьведчаньнямі не зьяўляюцца. Пасьля ўмяшаньня Варшавы летувісы прызналі-такі даваенныя дакумэнты, але пачалі месяцамі шукаць у архівах патрэбныя паперы.

Гадамі гаспадары чакалі, пакуль геадэзічныя аддзелы адмераюць ім іхную зямлю, і часам аказвалася запозна, бо выяўлялася, што зямля знаходзіцца ўжо ў руках некага іншага, звычайна этнічнага летувіса. Напрыклад, Вітаўтас Ландсбэргіс 8 гектараў мацярышчыны пад Коўнам "памяняў" на 16 га ў падвіленскім Няменчыне. У выніку былым гаспадарам даводзілася чакаць, пакуль дзяржава аддасьць ім належнае ў іншым месцы. За дзесяць год заявы на вяртаньне зямлі ў Віленскім павеце падалі больш за 100 тыс. чалавек, і дагэтуль права на зямлю (але не заўсёды — саму зямлю) вярнулі сабе толькі каля паловы зь іх. У іншых паветах вяртаньне зямлі ўжо скончылася ці вось-вось скончыцца.

**Сяргей Богдан**

# Юбілей каранацыі Міндоўга




**Літоўскі ўрад зацьвердзіў праграму сьвяткаваньня 750-годзьдзя каранацыі Міндоўга, якое будзе адзначацца 6 ліпеня 2003 г.** З нагоды юбілею ў Вільні плянуецца збудаваць мост Караля Міндоўга церазь Вяльлю, паставіць помнік Міндоўгу, спарадкаваць праспэкт Гедыміна, арганізаваць у Літве выставу спадчыны ВКЛ з музэяў Расеі. Міндоўг быў каранаваны ў 1253 г. у Наваградку.

# Смаленская АЭС

Знаходзіцца каля Дзеснагорску, спэцыяльна збудаванага гораду для работнікаў АЭС, на паўдарогі паміж Смаленскам і Бранскам. У Дзеснагорску жыве 40 тыс. чалавек. Дзеля забесьпячэньня працы АЭС на Дзясьне (церазь Беларусь не цячэ) збудавалі штучнае возера плошчаю 42 кв.км. На станцыі эксплюатуюцца 3 энэргаблёкі з рэактарамі РБМК-1000. Паводле праекту прадугледжвалася будаўніцтва яшчэ дзьвюх чэргаў па два блёкі кожная, але пасьля Чарнобылю ў 1986 г. будаўніцтва чацьвертага энэргаблёку спынілі. Іншыя смаленскія рэактары былі мадэрнізаваныя для павелічэньня іх бясьпечнасьці.

Сёлета скончаны плянавы капрамонт першага энэргаблёку станцыі, рамантуецца другі. Фінансавае становішча станцыі няпэўнае, бо выплаты за энэргію жывымі грашыма застаюцца на нізкім узроўні. Крэдыторская запазычанасьць станцыі перад банкам і бюджэтам высокая. Паліва для працы станцыя сёлета набывала толькі дзякуючы фінансавай падтрымцы канцэрну "Расэнэргаатам". За гэты год станцыя мае выпрацаваць каля 19 млрд. кВт электраэнэргіі, на ўзроўні мінулых гадоў. Смаленская вобласьць сама спажывае толькі 15% гэтай энэргіі. Рэшта ідзе ў Маскву й Беларусь.

З 1991 да 2000 г. на Смаленскай АЭС адбылося 97 збояў у рабоце абсталяваньня. Сур'ёзных выцечак радыяцыі не было.

Няма абсалютна бясшкодных для асяродзьдзя атамных станцый, хоць атамшчыкі сьцьвярджаюць, што АЭС наносяць меншую шкоду прыродзе, чым цеплавыя. Сярэднягадзённыя аэразольныя выкіды Смаленскай АЭС утрымліваюць (паводле зьвестак самой станцыі): інэртных радыеактыўных газаў 2,85% ад дапушчальнага; доўгажывучых нуклідаў 0,54% ад дапушчальнага; ёду 1,03% ад дапушчальнага. Гэтыя паказчыкі адпавядаюць узроўню большасьці эўрапейскіх АЭС.

## Лісты зь Нямеччыны
# Пра мову

Беларусь, хто зрабіў Табе такое ліха? Ты маеш сваю мову, Ты маеш сваю культуру, Ты ствараеш літаратурныя шэдэўры. Дзе ж Твая мова, хто размаўляе на ёй? Няўжо сапраўды толькі людзі ў вёсках валодаюць Тваёй мовая ды інтэлігенцыя, якая дагледае яе як хворага, спадзеючыся, што ён неўзабаве ачуняе, умацуецца, устане?

Белмова, Ты пайшла своеасаблівым шляхам. Твой народ вырашыў, што ў Цябе не стае сілаў, што Ты маеш патрэбу ў кімсьці, хто дапаможа Табе выйсьці з цяжкага становішча. У прынцыпе, быў толькі адзін кандыдат. *Великий и могучий русский язык*, які заўсёды быў Тваім апекуном, які напаўна ведае Цябе лепш, чым Ты сама, які заўсёды быў у Цябе і з Табою, пры царах ды савецкіх праваднрах. Расейская мова аказвала ўзьдзеяньне на Цябе, уплывала на Цябе і перадавала Табе свае элемэнты.

Дзе Ты цяпер знаходзішся, беларуская мова? Дзесьці на краі былой вялікай імпэрыі, на краі сусьветнай культуры, адасобленая. Польская мова, зь якой Ты некалі піла на брудэршафт, дапамагчы Табе таксама не можа. Дый ня хоча, паколькі Ты для яе ўжо не цікавая. А ўкраінская мова проста зьдзекуецца зь Цябе.

— Хіба Ты ня бачыш, што расейская мова зрабіла зь Цябе? — яна зьдзіўва сьмяецца Табе ў твар.

А чэская і славацкая мовы толькі паціскаюць плячыма.

— Чаму Вы з расейскай мовай не маглі разысьціся ў згодзе? — пытаюцца яны ў адзін голас.

Літоўская мова мае зусім іншыя праблемы, чым клапаціцца пра Цябе. Яна хоча цалкам вызваліцца ад расейскага ўплыву. І на самой справе здаецца, што гэта ёй удасца.

Нямецкая, француская і італьянская мовы нават не згадваюць, што Ты ёсьць на гэтым сьвеце. Якая ганьба!



Ангельская мова таксама ня хоча мець ніякіх адносін да Цябе.

— А Ты хто такая? — яна гучна сьмяецца.

Амэрыканская мова пыхлівая, яна нават расейскай мовы прызнаваць ня хоча.

Вось бачыш, Белмова. Ты, відаць, прапусьціла свой шанец. Трэба было мірна, але рашуча развітацца з расейскай мовай. Ня трэба было дазваляць ёй распараджацца Табой. Я спадзяюся, што яшчэ ня позна штосьці зьмяніць. Апамятайся, будзь моцнай, хай Твой народ любіць і паважае Цябе.

**Андрэ Бём, Ляйпцыг**

## Гамбія
# Прэзыдэнт-шаман
### абраны на выбарах праз барабан

**На прэзыдэнцкіх выбарах у Гамбіі перамог дзейны кіраўнік дзяржавы 36-гадовы Ягʼя Джамэг.**

Жыхароў адных вёсак ён запалохваў, у другіх абяцаў купіць трактары і лёгка выйграў. Прэзыдэнтам Джамэг зрабіўся 22 ліпеня 1994 г., выпадкова ўчыніўшы дзяржаўны пераварот. Уваходзячы ў той дзень у прэзыдэнцкі палац, Джамэг з групай афіцэраў зьбіраўся толькі дамагчыся выплаты затрыманага заробку. Так атрымалася, што адзін з двух ахоўнікаў дыктатара Джавары, задрамаў, а другі быў адышоўся ў прыбіральню, і джамэгаўцы безь перашкодаў пранікі ў кабінэт прэзыдэнта. Перапужаны Джавара кінуўся ўцякаць з палацу праз акно, прыбег у порт, ускочыў на першы ж амэрыканскі карабель дый пераплыў у Сэнэгал. Болей ён не вярнуўся, нават калі ўсё высьветлілася.

Паручнік Джамэг, які прысвоіў сабе спачатку чын капітана, потым палкоўніка, а праз два гады, калі Захад пачаў выказваць незадаволенасьць, зладзіў выбары, якія лёгка выйграў у першым туры. На выбары зьвілася больш за 90% выбаршчыкаў, а міжнародныя агляльнікі прызналі іх справядлівымі.

Яшчэ з каляніяльных часоў у Гамбіі ўсталявалася цікавая сыстэма галасаваньня. На кожным выбарчым участку замест скрыняў стаяць барабаны па колькасьці кандыдатаў, падпісаныя іхнімі імёнамі. Замест бюлетэняў выбаршчык кідае ў барабан упадабанага кандыдата выдадзены выбарчай камісіяй адмысловы каменьчык. Усярэдзіне барабана прымацаваны "кантрольны" званочак, каб ніхто ня кінуў больш за адзін камень. Таму ў дні выбараў гамбійцы ня маюць права езьдзіць паблізу выбарчых участкаў на роварах, бо іхныя званкі могуць увесьці ў аблуду чальцоў выбарчых камісіяў.

Простыя гамбійцы любяць прэзыдэнта Джамэга. А як яго не любіць? Ён наладзіў у краіне тэлебачаньне — забаўку, якой раней не было, прызнаў незалежнасьць Тайваню, беручы за гэта з тайванцаў грошы, на якія будуе школы, шпіталі, стадыёны. Акрамя таго, Джамэг паходзіць з чараўніцкага роду, і людзі вераць у яго-



ныя звышнатуральныя здатнасьці. Прыкладам, што кулі праходзяць празь ягонае цела нібыта праз паветра, ня шкодзячы. Журналісту *Newsweek*-у гамбійскі прэзыдэнт сьціпла адказаў, што можа й насамрэч у гэтым цьверджаньні ёсьць доля праўды, хаця сьцьвярджаць з поўнай упэўненасьцю ён не бярэцца. Але, відаць, на сьвеце бываюць і магнейшыя за яго ведуны, бо толькі летась былі раскрытыя два замахі на жыцьцё Джамэга.

**Сяргей Радштэйн**

# Магіла Каліноўскага
## *знайшлася на гары Гедыміна ў Вільні*

**Кожны год на Дзяды мы прыходзім да магілаў продкаў, блізкіх і сваякоў або да помнікаў нашым нацыянальным героям. Кастусь Каліноўскі — першае імя нашага гістарычнага пантэону, якое адгукаецца на словы "нацыянальны герой Беларусі". Вялізная колькасьць вершаў і цэлых раманаў, тэатральных спэктакляў і мастацкіх палотнаў прысьвечаная гэтаму чалавеку — герою, што заслужыў сабе імя Справядлівага.**

Але нідзе я не знаходзіў зьвестак пра ягоны апошні спачын.

Вось жа, на сёлетнія Дзяды, дзякуючы дапамозе найбольш аўтарытэтнага ў Літве дасьледчыка паўстаньня Каліноўскага, гісторыка й журналіста Уладзіслава Бікуліча, мне ўдалося расшукаць ягоную магілу.

Пасьля таго як кіраўнік антырасейскага паўстаньня 26-гадовы Кастусь Каліноўскі быў схоплены на канспіратыўнай кватэры ў Вільні, яго засадзілі ў Дамініканскі кляштар, дзе тады была зробленая турма. Адсюль 10 сакавіка яго прывялі на Лукішкі — знакаміты віленскі пляц. Тут Каліноўскага як "дзяржаўнага злачынца" павесілі. За часамі паўстаньня 1863 г. расейская акупацыйныя ўлады на чале з графам Мураўёвым баяліся паўтарыць сваю памылку 1839 г., калі яны пасьля экзэкуцыі аддалі цела расстралянага імі паўстанца Сымона Канарскага віленчукам. Магіла Канарскага адразу стала месцам паломніцтва і ўся патанала ў жывых кветках і сьвечках. А зь ягоных кайданоў патрыёты парабілі сабе "чорную біжутэрыю" — пярсьцёнкі й бранзалеты.

Пакараных сьмерцю паўстанцаў 1863 г., у тым ліку Каліноўскага, Серакоўскага ды іншых, вырашана было хаваць патаемна. Пасьля страты на шыбеніцы іх целы звозілі на Замкавую гару, дзе тады стаяў расейскі гарнізон. Тут іх і закопвалі пад старадаўнімі мурамі, у братняй магіле. Увесь час магілу вартавалі маскалі, і ніводзін цывільны віленчук цягам паўстагодзьдзя ня меў права туды зайсьці. Больш за тое, расейцы зрабілі на магіле паўстанцаў пляцоўку для гульні ў крыкет, пра што сьведчаць тагачасныя фатаздымкі.

Калі ж у 1915 г. расейцы пакінулі Вільню, тутэйшая грамадзкасьць адразу пачала пошук славутае магілы. І праўда, археолягам, сярод якіх быў і беларус Іван Луцкевіч, пашчасьціла знайсьці дакладнае месца пахаваньня. Балазе, жывы быў яшчэ дворнік, што працаваў калісь у расейскім форце на гары. Падчас раскопак былі знойдзеныя людзкія парэшткі, фрагмэнты паўстанцкіх чамарак, спражкі, абутак. Самы выбітны тагачасны віленскі дойлід Антон Вівульскі вырабіў велізарны адмысловы крыж, у народным кшталце, зь вялікіх брусоў дрэва. Але неўзабаве расейскіх акупантаў зьмянілі нямецкія. На загад камэнданта Вільні графа Інстэнбурга фон Бэрнштэйна немцы зламілі крыж і закапалі яго тамсама.

Калі ж у 1921 г. Вільня адышла да Польшчы, мэмарыял быў адноўлены. Гэтым разам ён складаўся з крыжоў і прыгожай мармуровай шыльды, на якой былі высечаныя імёны паўстанцаў, якія знайшлі тут свой вечны спачын, —Каліноўскага, Серакоўскага, Браніслава Калышкі, ксяндза Станіслава Ішоры. Усяго каля пятнаццаці чалавек. Але пасьля таго, як Сталін перадаў Вільню Літве, у 1940 г. крыжы былі спаленыя, а шыльда зьнікла бязь сьледу.

Віленскі журналіст і літаратар Войцех Пятровіч распавядае: "Драўляны крыж, разьбяны крыж, складзены зь некалькіх частак, быў трохі падобны на жмудзкалітоўскія крыжы (справа ў тым, што сям'я Вівульскіх паходзіць са Жмудзі, таму ён, пэўна, і меў сэнтымэнт да жмудзкіх крыжоў). Ён стаяў акурат там, дзе цяпер ляжыць камень, прысьвечаны Грунвальдзкай бітве, роўна пасярэдзіне, наверсе, на Замкавай гары". Генрык Сасноўскі, супрацоўнік тутэйшай Фундацыі польскай культуры імя Мантвіла, падае і іншыя падрабязнасьці: "Калі польскія археолягі вывучалі тыя магілы, дык знайшлі макасыны Каліноўскага й іншыя рэчы... І Каліноўскі, і Серакоўскі былі пахаваныя менавіта там. Іх пазналі па ботах, гузіках... Літоўцы ставяцца да гэтай гары як індусы да сьвятой каровы. Маўляў, гэта гара Гедыміна й нічога там не павінна болей быць... Перад вайною крыж звалілі, падпалілі... Там цяпер няма згадак пра паўстанцаў 1863 г. А некалі ж людзі зрабілі там пляцык, у 1923 г. нават узьнесьлі маленькі фантанчык, была прыгожая мармуровая табліца з імёнамі пахаваных там герояў".

Ідэя аднавіць мэмарыял над магілаю паўстанцаў раз-пораз узьнікала па вайне. Эскіз помніка стварыў будучы акадэмік Канстанцінас Богданас. Але ўлады гэтай справы не падтрымалі. Цяпер гэтая скульптурная кампазыцыя стаіць у Мастацкім музэі — зробленая вельмі традыцыйным, рамантычным кшталтам, у духу Антакольскага. Супраць мэмарыялу паўстанцам Каліноўскага на Замкавай гары рэзка запярэчыў Антанас Жугжда, намесьнік прэзыдэнта літоўскай Акадэміі навук, дырэктар Інстытуту гісторыі. Падставу прыдумалі простую: на тым месцы стаіць камень, прысьвечаны бітве пад Грунвальдам. Вежа стаіць, камень ляжыць. Яшчэ адзін помнік ня "ўпішацца" ў гару. Яшчэ адна вэртыкаль для гары будзе залішняю. Сышліся на тым, што Тры крыжы ёсьць агульным помнікам усім паўстанцам (бо хавалі паўстанцаў і на Трохкрыжовай гары, дзе стаяла іншая расейская фартэцыя).



Мо й сапраўды яшчэ адна вэртыкаль разбурыла б ансамбль Замкавай гары. Але навошта вэртыкаль? Проста хапіла б каменя над магілаю, да якога можна было б паставіць сьвечку й прынесьці кветкі. На сёлетнія Дзяды на ягонай магіле ўпершыню ў найноўшай гісторыі зьявяцца беларускія сьвечкі і будзе аддадзены гонар нацыянальнаму герою нумар адзін. Памяці Справядлівага.

**Сяргей Харэўскі**

**УЛАДЗІСЛАЎ БІКУЛІЧ аўтар манаграфіі "Рэвалюцыйныя арганізацыі ў Беларусі й Літве ў 1863 годзе". У 1963-м паводле ягонага сцэнару ў Менску быў зьняты дакумэнтальны фільм "Кастусь Каліноўскі".**

ДОЛЯ ЧАЛАВЕКА

# Лекавы сад Віяленція

**"Плянтацыя Віяленція" заснаваная на базе Менскай гароднінай фабрыкі ў сярэдзіне 80-х мінулага стагодзьдзя аграномам Георгіем Віяленціем. На кавалку зямлі плошчай 17 гектараў расьце 200 відаў лекавых траваў, зь якіх 70 — рэдкія далёкаўсходнія травы, якія выкарыстоўваліся ў тыбэцкай мэдыцыне. Два гектары займае жэньшэнь. У 1996 г. Ірына Віяленці атрымала Эўрапейскую прэмію Форда (2,5 тыс. даляраў) за захаваньне ўнікальнай плянтацыі.**

**З Ірынай Віяленці, удавой славутага агранома, сустрэлася карэспандэнтка "НН".**

**"НН": Раскажыце пра свайго мужа.**

**І.В.:** Муж мой паходзіў з Капыльшчыны, за 4 км ад ягонай вёскі Заруднае пачынаецца Нёман. Маці Георгія паходзіла з роду Жылкаў. У іхным родзе ўсе добра жылі ў сям'і, і таму вясковая мянушка ў іх была Каханавы. І мой муж быў сапраўдны Каханаў. Пазнаёміліся мы з Георгіем у Навагрудзкім сельскагаспадарчым тэхнікуме. Не было каханьня зь першага позірку. Гэта было спакойнае каханьне назаўсёды. Мы пражылі разам 30 год, вырасьцілі дзяцей. Сама я паходжу зь вёскі Повалака Воранаўскага раёну, тады гэта быў Радунскі раён. Маё прозьвішча было Каневіч. Я не любіла свайго прозьвішча і марыла выйсьці замуж за чарнявага, высокага мужчыну з прыгожым прозьвішчам. Калі на плянтацыю прыяжджалі італьянцы, яны пыталіся, адкуль такое італьянскае прозьвішча — Віяленці. Але муж казаў, што яны былі беларусы спрадвечныя.

У яго ўсё атрымлівалася, за што б ён ні браўся. Што ён прасіў у Бога, тое яму і давалася. Яму трэ было толькі адно: каб атрымлівалася тое, што ён робіць.

**"НН": У вас абаіх было пакліканьне да сельскагаспадарчай працы?**

**І.В.:** Ані ў мяне, ані ў яго не было. Я скончыла 8 клясаў у 14 год, грошай дома не было, і я пайшла рабіць на фэрму. Я працавала 3 месяцы. Але ў мяне распухлі рукі аж па плечы. У мяне было 25 кароў, якіх я выдойвала рукамі па 2 разы на дзень. Кіраўнік калгасу пашкадаваў мяне й кажа: хочаш вучыцца — ці на заатэхніка, ці на агранома? Я не зьлюбіла спачатку тэхнікуму. Нават перавялася на завочнае, паехала дахаты, адпрацавала 3 месяцы, і мяне пацягнула назад: гэтак я хацела пабачыць свайго будучага мужа.

А Георгі быў зь вельмі беднай сям'і. Бацьку забілі на фронце. Яму далі накіраваньне ў тэхнічную ВНУ. Ён быў такі майстра ад прыроды! Пакуль мы жылі разам, я нічога з хатняе тэхнікі не насіла ў рамонт. У адным з калгасаў, дзе ён рабіў аграномам, трактарысты хацелі прагуляць дзень і памянялі нейкія шасьцерні месцамі. Кажуць: Георгі Іванавіч, трактар не працуе. Ён умзнт сьцяміў, у чым справа.

Ён быў вельмі сарамлівы. Я сама прапанавала яму пайсьці да шлюбу. Помню: усе пары ў інтэрнаце пасьля танцаў мілуюцца: ці на калідоры стаяць, ці на кухні шэпчуцца, ці ва ўмывальніку, выкладчыкі хадзяць, разганяюць парачкі, а мы пад дзьвярыма майго пакою стаім, і ён мне тлумачыць канструкцыю трактара. Пажаніліся мы сьціпла. Мне было толькі 18 год. Расьпісаліся мы па месцы ягонай працы — Бярозаўскі раён, вёска Шылінок. Ішлі за 12 км пад даждом, купілі сакратару сельсавету гарэлкі й селядца, і ён пагадзіўся нас расьпісаць. Потым муж пайшоў у войска. Пасьля мы пачалі працаваць разам, нарадзіліся дочкі — Марына й Наталя.

**"НН": А як яму прыйшло займацца жэньшэнем?**

**І.В.:** Ён увесь вольны час прысьвячаў лекавым расьлінам. Выразаў нататкі з газэтаў і часопісаў. Наклейваў, зьбіраў зьвесткі. А потым матэрыял скампанаваў па хваробах. Спачатку Георгі спрабаваў разьвесьці жэньшэнь хаця б у сябе на гародзе. Здабываў насеньне: пісаў лісты ў Тыберду (запаведнік такі на Каўказе) і на Далёкі Ўсход. Яму заўсёды адмаўлялі. Тады Кашэўскі, тагачасны дырэктар гароднінай фабрыкі, прапанаваў Георгію вырошчваць жэньшэнь на фабрыцы. Я памятаю, Георгі прыйшоў дадому й пачаў скакаць па хаце. Такі вялікі, імпазантны чалавек — і скача па хаце! Мы пачалі рыхтаваць адмысловую глебу і зацяняльныя прылады. А я кажу: ну што такое 7 сотак жэньшэню для такое вялікае фабрыкі! Вось я чула, на Далёкім Усходзе ёсьць саўгас "Жэньшэнь". Вось каб зь імі стэлефанавацца, можа, яны б нам далі расады, мы б больш пасадзілі. Ён кажа: а ты й займіся. А я была ў яго заўжды на падхваце, але не павінна была ўмешвацца ў важныя справы. Я толькі магла нешта спадцішка падказаць яму. Ён мне крычаў: "Жанчына, маўчы!" Нібыта й жартам. Дамастроевец трохі быў.



**"НН": А як жа гэта Вы так паддаліся?**

**І.В.:** Замалада не паддавалася. Але як пабачыла, што ў яго атрымліваецца ўсё, ня стала замінаць. Пазваніла я тады ў Мінгас СССР і Міндзраў СССР, ніхто ня ведаў. А тады я пазваніла ў Вярхоўны Савет СССР. Там узяў слухаўку нейкі незвычайна ветлівы чалавек. Ён выслухаў і кажа: я ня ведаю, але я даведаюся. Пакіньце Ваш тэлефон, я ператэлефаную. І пазваніў. Калі ён прачытае гэтыя радкі, хай знае: я яму дагэтуль удзячная. Усё тады закруцілася. Георгі лётаў на Далёкі Ўсход, пераймаў досьвед, прывёз лекі. Разоў 10 лётаў туды-назад, у тым ліку ў Кітай. Кашэўскі быў захоплены, даваў грошы ахвотна. Георгі пазнаёміўся з батанікамі з Далёкага Ўсходу, падаўся зь імі ў тайгу, пачаў прыносіць лімоньнік кітайскі, заманіху, элеўтэракок, каля 70 відаў у нас расьлін расьце з далёкаўсходняй флёры. А тады ён пачаў выяжджаць на вайсковы палігон непадалёк ад Менскай гароднінай фабрыкі. Там багатае разнатраўе, бо там жа не аруць, ня сеюць і ня лазяць. І ён прыносіў насеньне жменямі. Спачатку саджаў на плянтацыі "чырванакніжныя" расьліны, а тады ўжо менш рэдкія.



Георгі Віяленці

Ён быў вельмі моцны мужчына, у яго нават мэдычнай карткі ў паліклініцы не было. Ніколі ён ня быў на бальнічным. І раптам за паўтара месяца чалавека ня стала. Ён памёр — хадзячым. Напісалі: памёр ад крывацёку ў лёгкіх. І тады яшчэ пайшлі чуткі, што доктар, які апэраваў шчытападобную залозу, закрануў парашчытападобную, і таму Георгі памёр. Сёлета я даведалася, што доктара, які яго апэраваў, дыскваліфікавалі. Хто яго ведае, так ці ня так. Ня вернеш ужо. За два гады да сьмерці Віяленці адчуваў, што пойдзе з жыцьця. Набыў кружэлкі з царкоўнымі сьпевамі й чаравікі на сьмерць. Прычым чаравікі на два памеры большыя, чым трэба. Таму што ў нас памёр адзін трактарыст, і Георгі бачыў, што цела ў таго разбухла і туфлі паклалі побач у труне. Георгі казаў: не хачу, каб мяне так хавалі. Трэба, каб чаравікі былі на нагах... Ён паміраў двойчы, першы раз у студзені, толькі адчынялі могілкі ў Калодзішчах. Нам ужо было па пяцьдзясят зь ім, і мы часта гаварылі: няма дзе хаваць. Туды ня хочам і туды ня хочам. Ён бы паехаў на радзіму. А я кажу: я не хачу. І дзеці тут у нас. Трэба, каб дзецям было бліжэй езьдзіць. І вось паміраў ён у ноч з 30 на 31 студзеня, а

# Ружаны. Драўляная рука

Стаяў сабе пасярод невялікага старажытнага мястэчка бэтонны Ленін. Стаяў, паказваючы правай рукою на гастраном. Стандартны такі, невядомага аўтара манумэнт, якіх па Беларусі налічваліся сотні, калі ня тысячы. Аж дастаўся да часоў перабудовы. І тут пачаліся ў яго розныя непрыемнасьці. То яму хамут начэпяць на працягнутую правіцу, то бохан хлеба ў руку ўкладуць, то яшчэ які жарцік асьмялелыя местачкоўцы прыдумаюць. Аднойчы прачнуліся мясцовыя жыхары, а на Ільічу шыльда: "Што, гады, забыліся?" Урэшце ленінская рука ня вытрымала і адвалілася. Тут бы начальству ўзрадавацца і сьпісаць манумэнт "*как пришедший в ветхость*", дык не! Замітусіліся: такая, ведаеце, ганьба. Гістарычна-ідэалягічная ж каштоўнасьць! Пачалі спэцыяліста-рэстаўратара шукаць, а дзе яго знойдзеш у глухой правінцыі? Мясцовы мастак наадрэз адмовіўся рамантаваць статую. Знайшлі п'янчугу-добраахвота, які за памяркоўную плату вычасаў правадыру руку зь бервяна. Так-сяк прымайстравалі, разьвесялілі народ. Ні ў кога ж такога няма: Ленін з драўлянаю рукою!

Мястэчка, дзе ўсё гэта адбывалася, называецца Ружаны, і ў дасьведчанага чалавека гэта адразу ж выклікае цэлы ланцужок асацыяцыяў, імёнаў, гістарычных падзеяў. Родавае гняздо Сапегаў, цудоўны калісь палац, мануфактуры і пэрсіярня, папяровы млын ва ўрочышчы Паперня, шведы, Пётар I, чарка "Іван" ёмістасьцю ці на тры літры і г.д.


Камень з гербам Ружанаў

Але вернемся да ленінскай рукі. Нядоўга пратрымалася яна на целе правадыра, адвалілася зноў і зьвесілася бездапаможна, паказваючы пальцам у зямлю. Ізноў рагочуць ружанцы. Справа ў тым, што пры масавай вытворчасьці правадыроў у савецкія часы рабяцягі бессаромна кралі і цэмэнт, і арматуру. Мясцовыя ж улады з настойлівасьцю маньякаў ізноў паднялі тую руку і прымацавалі да тулава.

Калі ўехаць ці ўвайсьці ў Ружаны з поўдня, зь Берасьцейскага напрамку, адразу ўбачыш прыгожыя руіны былога сапегаўскага палацу, на штучным узвышшы, што пануе над усім мястэчкам. Гэта — ружанская дамінанта. Далей, на плошчы, Петрапаўлаўская царква і касьцёл Сьв.Тройцы, рэшткі гасьцёўнага двара і будынак кляштару базыліянаў. І капліца на могілках. Усё гэта — XVII—XVIII ст., у асноўным — творы Самуэля Бэкера, прыдворнага архітэктара Сапегаў.

Перад вайной у Ружанах было 5 тыс. насельніцтва, зь іх 4 тыс. — габрэі. Ружанскі галакост адбыўся ўвосень 1943 г. Сёньня ў Ружанах ад усяго даваеннага габрэйства засталася адна каменіца былой сынагогі (другая палова XIX ст.), у якой па чарзе месьціліся то склады, то млын, то кацельня. Цяпер, здаецца, гараж.

У спусьцелае мястэчка рынулася вёска. Ружаны пачалі хутка беларусізавацца. Я скончаў школу ў 50-х, дык у нас было ўжо дзьве дзясятыя клясы: "А" — зь местачкоўцаў і "Б" — з насельнікаў навакольных вёсак, бо там не было яшчэ дзесяцігодак. Працэс беларусізацыі працягваўся нядоўга. На пачатку 60-х паблізу, у Бярозаўскай пушчы, паставілі ракетную базу, а ў Ружанах на плябані, дзе разьмяшчаліся немецкія могілкі, збудавалі жыльлё для ракетчыкаў: пяць пяціпавярховых каробак, якія ўшчэнт разбурылі архітэктурнае аблічча мястэчка. Будаваліся проста на касьцях, чарапы выграбалі сотнямі. Цяпер базы няма, ракетчыкі — хто ў Расею зьехаў, хто памёр, а большасьць сьпілася і разбэсьцілася, так што цяпер гэтыя пяціпавярховікі (за рэдкім вынняткам) — суцэльная кляка. А не будуйце ж на чалавечых касьцях!



Ракетчыкі, што панаехалі з усяго былога Саюзу, прывезьлі ў Ружаны і сваіх жанок, каторыя хуценька пазаймалі самыя цёплыя месцы ў бальніцы і школе, аптэцы і выканкаме, за прылаўкамі і ў бухгальтэрыях, прынёсшы з сабою расейскую мову і расейскую мэнтальнасьць. Цяпер ружанцы — тыповыя "тутэйшыя", мова — беларуска-расейска-польская трасянка, нацыянальная сьвядомасьць ледзь цепліцца, асабліва з улікам апошніх сямі інтэграцыйных гадоў. А наагул дык народ харошы.

Некалькі слоў пра лёс галоўнага ўпрыгожаньня Ружанаў — Сапегаўскага палацу. Апошнім ягоным уладальнікам быў Мордух Пінэс, дзед якога купіў палац з аўкцыёну. Царскі ўрад канфіскаваў у Сапегаў усю іхную маёмасьць за ўдзел у паўстаньні 1831 г. А пасьля вайны я бачыў у сваіх аднакласьнікаў печку, складзеную зь вялізнай плінфы. Выяўляецца, савецкая ўлада дазваляла мясцовым жыхарам для гаспадарчых патрэбаў выломваць або выбіраць з палацавых збудаваньняў цэглу. Бачыў я пісьмовы дазвол на 160 шт. цэглы на афіцыйным гарсаветаўскім бланку...

У Леніна рука адвалілася і ў трэці раз. Якраз перад Днём Перамогі. Аднавілі і ў трэці раз. Цяпер з бэтону.

**Уладзімер Ратней**

**Фатаздымкі з архіваў Ю.Малышэўскага, А.Пракапенкі і аўтара.**

**У наступным нумары «НН» — гісторыя Ружанаў XX ст. на фатаздымках.**


Касьцёл Сьв.Тройцы. 1935 г.


Палац. Перад Брамай — яго ўласьнікі.

могілкі адчынілі 1 лютага. Але я прасіла Бога, каб ён не патрапіў першым на гэтыя могілкі. Я кленчыла й прасіла: не забірай яго, не забірай! А на раніцу я стрэлася з доктарам, і ён сказаў: не разумею, як чалавек мог пражыць без дыханьня 10 гадзінаў. Вязуць яго з рэанімацыі, а ён анэкдоты расказвае...


Ірына Віяленці

**Пасьля сьмерці Георгія Віяленція плянтацыя сталася прадметам спрэчкі паміж ягонай жонкай ды новым дырэктарам гароднінай фабрыкі сп.Кугачом. Па словах Ірыны, ён робіць усё, каб выцісьнуць яе і ейную дачку з плянтацыі, набраў нетутэйшых работнікаў, пагарджае "старымі кадрамі", самавольна распараджаецца ўраджаем жэньшэню.**

**Мікалай Кугач, у сваю чаргу, сьцьвярджае, што ніякіх парушэньняў на плянтацыі няма: дзьве комплексныя праверкі, якія прыяжджалі па лістах незадаволеных працаўнікоў, ня выявілі фінансавых парушэньняў з боку дырэктара. "Я маю права фармаваць сваю каманду", — заўляе сп. Кугач. Ён сьцьвярджае, што ня мае намеру зьнішчыць плянтацыю, а толькі зьбіраецца зрабіць яе эканамічна выгаднай, дзеля чаго шукае рынкі збыту, партнэраў і г.д.**

**Адным словам, розныя людзі — не спрацаваліся.**

**Ірына Віяленці хоча, каб плянтацыя сталася філіяй Батанічнага саду, бо гэта скарб нашай краіны. Можа, і слушнае пажаданьне.**

**Сьвятлана Курс**

## АНОНС
## САМАЯ БЕЛАРУСКАЯ ХВАРОБА

У Беларусі зарэгістраваная інфэкцыйная хвароба, якая не сустракаецца ні ў воднай іншай краіне сьвету. Яна, як і "каровіна шаленства", выкліканая прыёнамі. Яшчэ ў 70—80-я гады ў Барысаўскім раёне апісалі выпадкі своеасаблівай дэгенэрацыі сьпіннога мозгу, якія былі названы аміётрафічным лейкаспангіёзам. Хворыя паходзілі зь некалькіх суседніх паселішчаў, а найбольш зь вёскі Мётчы.

**Пра "хваробу Мётчы" і іншыя інфэкцыйныя хваробы XXI стагодзьдзя — артыкул доктара Васіля Аўраменкі ў наступным нумары "НН".**

## Навіны культуры

### Помнік крывічам

**У полацкім Цэнтральным сквэры, дзе доўгі час знаходзілася гарадзкая дошка гонару, адкрыты помнік заснавальнікам гораду — крывічам:** на п'едэстале з мармуровай крошкі застыла невялікая ладзьдзя. У ёй – жанчына з хлопчыкам і ваяры. Аўтар кампазыцыі — скульптар Алесь Шатэрнік.

Цырымонія адкрыцьця распачалася невялікім спэктаклем, прысьвечаным чамусьці адной Эўфрасіньні Полацкай. Пасьля япіскап Полацкі й Глыбоцкі Хадос асьвяціў помнік. Сьвянцаў ён паганцаў-крывічоў так доўга, што многія прысутныя школьнікі ды навучэнцы ПТВ пазамярзалі й паразьбягаліся з цырымоніі.

Мэр гораду Ўладзімер Тачыла запэўніў прысутных, што гарвыканкам дбае пра культуру. Полацкім прадпрымальнікам, чыё добраахвотна-прымусовае мэцэнацтва ў памеры 5000 даляраў і дапамагло ажыцьцявіць гэты праект, не падзякаваў ніхто. Цяпер улады шукаюць сродкі на будаўніцтва помнікаў Сімяону Полацкаму ды воінам-інтэрнацыяналістам.

**Паводле Радыё Рацыя**

### "Несьцерка" ў Менску

**Выхаднымі ў Менску прайшоў турнір па інтэлектуальных гульнях "Несьцерка"**, які складаўся з турніру "Хто хутчэй?" (аналяг "Брэйн-Рынгу") і "Інтэлектуальнага маратону" ("Што? Дзе? Калі?"). Зьехаліся 58 камандаў, у тым ліку тры з Расеі і адна з Украіны. Перамаглі "Віцебскі трамвай" і "Джокер" (Магілёў). Гульні трываюць ад сярэдзіны 90-х, турнір сярод беларускамоўных камандаў адбыўся толькі аднойчы — летась у Лідзе.

### "Сэрж" даў грошы на спэктакль

**У Купалаўскім пастаўлены спэктакль "Дом, дзе сьпяць прыгажуні" паводле аповесьці Я.Кавабаты.** Фінансамі дапамагла менская фірма "Сэрж", вытворца бялізны. Колькі тыдняў таму на радыё Бі-Эй "Сэрж" спансараваў ранішнюю праграму "Поп-зорка" (конкурс на самую прыгожую дупку). Дзяўчаты распраналіся пад жывую радыётрансьляцыю і атрымлівалі ў падарунак камплект бялізны.

**Мікола Бугай**

## БЕЛАРУСЬ ПРАЗ 100 ГАДОЎ

# Будзем жыць як у Эўропе

Сёньняшняя Беларусь падобная да самых перадавых краінаў Эўропы 100 гадоў таму. Мэтро ў сталіцы пабудавалі праз стагодзьдзе пасьля лёнданскага, адноснае жабрацтва лельчыцкіх сялянаў дужа нагадвае сьціплае жыцьцё шатляндзкіх горцаў тае пары, а эратызм гарадзенскіх паэтаў — творчыя пакуты іхных венскіх калегаў часоў Фройда. Значыць, Беларусь праз 100 гадоў будзе падобная да сёньняшніх Нью-Ёрку ды Бэрліна? У кожнага беларуса будзе машына, мабільнік, Менск будзе горадам смогу, амаль безь зеляніны, у ім будуць жыць адно людзі сярэдняга дастатку, тады як багацейшыя ўсе чыста ў Заслаўі ды Ждановічах, а летам усе беларусы будуць душыцца на сьмярдзючых крымскіх і харвацкіх пляжах? А цэрквы будуць гэтаксама пераабсталёўваць з-за непатрэбнасьці пад офісы, як цяпер у Амстэрдаме? Тады як бэрлінцы і нью-ёркцы будуць жыць зусім іншым жыцьцём, лёгкім, нязмушаным і неклапатлівым з узораў на глянцавых вокладках?

Не, ня будзе такога. Бо ў Беларусі адна праблема вечная — кватэрная.

**Андрусь Белавокі**

## Новы праект "Нашае Нівы"



2101 год. Якой будзе Беларусь праз 100 гадоў? Якая будзе дзяржава і які дзяржаўны лад? Якімі будуць гарады? Які горад будзе сталіцай Беларусі? Якімі межы краіны? Што беларусы будуць есьці? Якімі будуць беларускія грошы? Які транспарт? Якімі сродкі масавай інфармацыі? Якая літаратура будзе чытацца? Ці застануцца тэатры? Якія імёны будуць самымі папулярнымі? Якімі стануць лясы і рэкі? Ці можна будзе купацца ў забруджаных сёньня азёрах? Якія зьвяры зьнікнуць, якія новыя расьліны завядуцца? Што будзе з чарнобыльскай зонай? У якіх цэрквах будуць маліцца людзі? Што яны ведацьмуць пра 2001 год? Што будзе з намі?

**Штотыдня — фантазіі пра будучыню Вечнай Беларусі, эсэ, прагнозы і футуралягічныя артыкулы ў рубрыцы "Беларусь праз 100 гадоў". З гэтага выйдзе цэлая кніга! Чакаем Вашых допісаў. Будзем загадваць.**

# Дык дзе ж аб'ектыўнасьць?

Сяргей Навумчык, Прага

Спадзяюся, дзясяткі выступаў у падтрымку свабоды слова і асобных журналістаў на сэсіях Вярхоўнага Савету XII скліканьня, абарона прэсы ў Канстытуцыйным Судзе, удзел у заснаваньні Беларускай асацыяцыі журналістаў даюць мне маральнае права выказацца на тэму, якая ўяўляецца істотнай ня толькі ў дачыненьні да журналістаў, але й да ўсяго грамадзтва.

Маю на ўвазе сытуацыю вакол асобы Зянона Пазьняка ў незалежных СМІ. Падчас “альтэрнатыўнай прэзыдэнцкай кампаніі” 1999 г. Пазьняк абвінаваціў аднаго з журналістаў у прадажнасьці, бо той прапанаваў рэдактару пэўнай газэты грошы, каб надрукаваць матэрыялы ў падтрымку аднаго з кандыдатаў. Пра гэта Пазьняку паведаміў сам рэдактар.

Прынятая ва ўсім сьвеце прафэсійная этыка дазваляе журналісту атрымліваць грошы за журналісцкую працу толькі ў рэдакцыі. І толькі ў якасьці зарплаты, ганарару альбо аплаты камандзіровачных выдаткаў. Усё астатняе — хабар.

Так, газэты трымаюцца коштам рэклямы. Так, заплаціўшы, вы можаце надрукаваць кампліментарны артыкул — але абавязкова будзе пазначана, што ён друкуецца “ў якасьці рэклямы”. Адпаведным будзе і стаўленьне чытачоў. Таму на Захадзе “тэкставая рэкляма” практычна адсутнічае — ёй не давяраюць. А калі б журналіст атрымаў ад нейкай фірмы “ганарар” за тое, што яе пахваліў — быў бы імгненна звольнены, бо ніводнае выданьне не пажадае трымаць “прадажнага”. І ўжо зусім немагчыма ўявіць, каб карэспандэнт браў грошы ад палітыка. У цывілізаванай краіне гэта назаўсёды пахавае рэпутацыю і аднаго, і другога.

Таму Пазьняк меў рацыю, калі вінаваціў у прадажнасьці тых, хто пагадзіўся ўзяць грошы. Яны, дарэчы, зьяўляюцца сябрамі БАЖ, і першае, што павінна была зрабіць гэтая арганізацыя, — на камісіі па этыцы выслухаць абодва бакі. Калі б выявілася, што Пазьняк памыліўся, — ён мусіў бы папрасіць прабачэньня. Але заява Пазьняка выклікала не расьследаваньне, а напад на самога Пазьняка. Рэдактар *Белорусской деловой газеты* Пётар Марцаў адзначыў, што “мэнталітэт Зянона Пазьняка мала чым розьніцца ад мэнталітэту Аляксандра Лукашэнкі” (тут і далей — у перакладзе на беларускую), і заявіў: “Калісьці менавіта прэса спрыяла таму, каб Зянона Станіслававіча пачалі ўспрымаць як палітыка новай, дэмакратычнай фармацыі... Цяпер ён абвінавачвае прэсу ў прадажнасьці.. Можа быць, самі журналісты, якія такі доўгі час ляпілі з Пазьняка вобраз рыцара..., у гэтым вінаватыя...”

Насамрэч Пазьняк ня быў “створаным журналістамі”. Прэса яму не спрыяла, хутчэй наадварот. У адрозьненьне ад краінаў Прыбалтыкі ці нават Расеі, нарадженьне беларускай дэмакратыі, якую ўвасабляў БНФ, адбывалася пры поўнай адсутнасьці незалежнага друку і манаполіі камуністычных СМІ. Менавіта камуністычная, а потым і “пракебічаўская” прэса стварыла Пазьняку імідж “фашыста”, “экстрэміста”, “ахвочага вешаць камуністаў” і г.д.

Вось як актывіст выбарчай кампаніі ў Вярхоўны Савет у 1990 г. Уладзімер Крукоўскі прыгадвае спробы абвергнуць паклёп: “Цяжка было прабіцца ў сталічную прэсу. Я асабіста абышоў усе менскія газэты. *Советская Белоруссия* спасылалася на вялікую чаргу, *Знамя юности* — на ўзрост Пазьняка (ня юны), “Мінская праўда” — на кандыдатаў з вобласьці, а *Вечерний Минск* “чэсна” заявіў: “Мы ня можам прапагандаваць нашага палітычнага апанэнта” (“НН”, 1999 г.).

Пасьля абраньня Пазьняка дэпутатам сытуацыя не нашмат палепшылася. Адзіным выданьнем, дзе Пазьняк мог надрукавацца гарантавана, была створаная Сярэдзічам “Народная газета”. І толькі некалькі журналістаў паспрабавалі аб'ектыўна разабрацца ў тым, чаго ж дамагаецца Пазьняк. Можна назваць артыкулы Анатоля Казловіча, інтэрвію Аляксандра Ўліцёнка для кнігі “Іншадумцы”, фільм Аляксандра Лукашука і Міхаіла Жданоўскага “Дарога на Курапаты”, публікацыі Аляксандра Старыкевіча — здаецца, гэта ўсё (выбачаюся ў рэгіянальных журналістаў, пра публікацыі якіх магу і ня ведаць). Пятра Марцава сярод іх не было — зрэшты, ён у той час працаваў у БелТА шараговым карэспандэнтам, і ад яго там нічога не залежала. Але калі Марцаў стварыў *БДГ* і *Имя*, у якіх ад яго залежала ўсё, — ніводнага станоўчага радка пра Пазьняка ён не надрукаваў.

Даходзіла да абсурду. У красавіку 1996 г. газэта *Имя* абірала шляхам апытаньня “чалавека месяца”. “Вынікі нашай красавіцкай экспэртызы, — паведамляла газэта, — вельмі нечаканыя: практычна аднагалосна чалавекам месяца быў прызнаны лідэр БНФ у эміграцыі Зянон Пазьняк”. Але такі вынік не задаволіў, і ў рэдакцыйным артыкуле адзначылі, што “правадыр вандраваў па краінах і кантынэнтах і практычна ніякага ўдзелу ў беларускай палітыцы не прымаў... і, значыць, чалавекам месяца ня можа быць паводле вызначэньня”.

Цікава, калі лідэры “аб'яднанай апазыцыі” выступалі ў камісіі Кангрэсу ЗША, яны ўдзельнічалі ў беларускай палітыцы? Ці гэта быў удзел у палітыцы акругі Калюмбія, дзе месьціцца Капітолій?

У той жа публікацыі быў зьдзеклівы камэнтар да прапановы Пазьняка ўшанаваць хвілінай маўчаньня памяць Дудаева падчас Чарнобыльскага Шляху-96.

Як сёньня наконт Дудаева, калегі? Вы па-ранейшаму лічыце яго бандытам, якога ўдала “зачысьцілі” расейскія спэцслужбы? Ці ўжо нацыянальным героем Чачэніі, у гонар якога чачэнцы назвалі сваю сталіцу?

Ні на кога з палітыкаў у апошнія дзесяцігодзьдзі прэса ня выліла гэтулькі бруду, як на Пазьняка. Спачатку камуністычная і афіцыйная — за Курапаты, за патрабаваньне беларусізацыі, незалежнасьці і ліквідацыі КПСС, за праўду пра Чарнобыль. Потым — незалежная, за тыя выказваньні ды прагнозы, якія праз нейкі час спраўджваліся.

Асабліва яскрава неаб'ектыўнасьць прэсы выявілася падчас апошняга, “падзельнага” зьезду БНФ.

Вось артыкул Аляксандра Тамковіча ў газэце *Свободные новости* — “Праект «Пазьняк» праваліўся. Эх? Ура?”: “Гэта трэба здолець — на апошнім скандальным зьезьдзе БНФ прыхільнікі Зянона прайгралі “вячоркаўцам” у палітфутбол зь лікам 1:20...”

Насамрэч дэлегаты зьезду падзяліліся амаль напалову (у Пазьняка было на чатыры галасы болей). А вынік, які прыводзіць Тамковіч, быў на зьезьдзе прыхільнікаў Вячоркі, сярод якіх, як бачым, некаторыя ўсё роўна галасавалі за Пазьняка.

І далей: “Зянон ня той чалавек, які здольны быць вечным нацыянальным лідэрам...Пазьняк пойдзе на ўсё, каб назад не вярнуцца. Аж да шчыльнага і плённага супрацоўніцтва з уладай...”. І яшчэ: “Пазьняк прайграў дзесяць гадоў таму... Менавіта Пазьняк больш за іншых вінаваты ў тым, што адбылося з палітычнай апазыцыяй краіны. Вінаваты, бо не пажадаў аб'яднаць вакол сябе пратэсны электарат, бо дэбільным экстрэмізмам, а часта і таннай папуліцкай хлусьнёй спрабаваў падмяніць ідэю нацыянальнага адраджэньня”.

Дзесяць гадоў таму, працуючы ў вайсковай газэце *Во славу Родины*, Аляксандар Тамковіч не асабліва клапаціўся пра лёс апазыцыі — наадварот, зьедліва пісаў і пра яе, і пра ідэі, якія яна адстойвала. Памятаю артыкул, дзе ён зьнішчальна крытыкаваў патрабаваньне БНФ стварыць незалежнае ад Масквы беларускае войска — тады гэта падавалася яму “экстрэмізмам”. Ня ведаю, што ён лічыць экстрэмізмам сёньня, але ўжываць тэрмін “дэбільны” не дазваляе сабе нават афіцыйная прэса.

Ірына Халіп хоць бы трымалася навуковай лексыкі, заявіўшы ў *Имени*, што “на Пазьняку гэты генэтычны код і спыніцца. Бо ніводная жанчына не пагодзіцца дапамагчы яму ў справе нараджэньня беларусаў”...

Мэтад скажэньня і абразаў з асобы Пазьняка быў перанесены і на партыю, якую ён узначальвае.

“Бальшавікі сыходзяць аднолькава” — гэткі назоў артыкулу Фядуты ў *БДГ*. Аўтар папракае партыю, якую ўзначальвае Пазьняк, у супрацоўніцтве з уладай, бо “з рук гэтай улады спадар Беленькі атрымаў рэгістрацыйныя пасьведчаньні партыям БНФ і БНФ-КХП”. Цікава, а ад каго атрымалі такія пасьведчаньні іншыя апазыцыйныя партыі? А сама *БДГ*?

**Журналіст мае права на эмоцыі, але першы ягоны абавязак — даваць чытачу інфармацыю**

“У палітычным жыцьці Зянона Пазьняка былі гераічныя старонкі, — піша Фядута. — Палітычная ж сьмерць яго ганебная, як сьмерць афіцэра, які забыўся пра прызначэньне апошняй кулі ў абойме”...

Гэтыя словы Фядуты, як і ягоны пасаж пра тое, што “лепш ужо куля”, у дачыненьні да жывога чалавека, пакіну без камэнтароў.

А вось на словах зь іншага артыкулу Фядуты — што Пазьняк нібыта падмануў Быкава — спынюся. У сакавіку, наведаўшы Быкава ў Франкфурце, давялося гутарыць зь ім на гэтую тэму. Быкаў сказаў, што не адмаўляецца ад словаў, калі-небудзь сказаных ці напісаных ім пра Пазьняка. “У “Народнай волі” быў надрукаваны ліст чытача “Краіне патрэбны Пазьняк” — дык вось, я падпісваюся там пад кожным радком”, — дадаў Васіль Уладзімеравіч. Сваё стаўленьне да Пазьняка Быкаў пацьвердзіў і падчас нашай сустрэчы ў Празе ў верасьні.




Сёлетняя выбарчая кампанія выклікала новую хвалю зьедлівых публікацыяў. Рэгістрацыя ініцыятыўнай групы Пазьняка камэнтавалася рэзка адмоўна: “Рэгістравацца ня мае права, бо ня жыў у Беларусі”. Пры гэтым факт, што Чыгір доўгі час жыў у Маскве, пад увагу ня браўся (ня дзіва — расейскамоўная прэса дагэтуль успрымае Маскву як “нашу сталіцу”).

Прыёмы “незалежнай прэсы” не адрозьніваліся ад прыёмаў аглядальнікаў лукашэнкаўскага тэлебачаньня: зьнішчальныя тэзысы бяз доказаў, арыентаваныя найперш на моладзь, якая можа і ня ведаць абставінаў фармаваньня беларускай дзяржаўнасьці.

Так, у інтэрвію *Свободным новостям* Сініцын заяўляе: “Пазьняк скампрамэтаваў нацыянальную ідэю. Радыкалізм адштурхнуў людзей. У тым, што народ у свой час прагаласаваў за Лукашэнку, — на 50% асабістая заслуга Пазьняка”. Сініцыну, які за часам свайго дэпутацтва ў ВС XII скліканьня не сказаў ні слова па-беларуску, які ў 1994 г. быў кіраўніком выбарчага штабу Лукашэнкі, а ў 1995 у якасьці кіраўніка прэзыдэнцкай адміністрацыі праводзіў “рэфэрэндум” аб скасаваньні “Пагоні” і бел-чырвона-белага сьцяга і ўвядзеньні дзьвюхмоўя, — пра “нацыянальную ідэю” і “асабістыя заслугі” лепш было б памаўчаць. Паказальна, што газэта ніяк не пракамэнтавала словы Сініцына.

Праз некалькі нумароў тыя ж *Свободные новости* друкуюць артыкул Аляксандра Коктыша ”Няўлоўны Джо — ён жа Зянон Пазьняк”: “Незалежнасьць звалілася на беларусаў, як сьнег на галаву”, “яе ж Зянон Станіслававіч сваёй антырасейскай гістэрыяй, выбачайце, і прафукаў”.

“Нечаканая”, “лёгкая”, “выпадковая” незалежнасьць — улюбёны тэзыс некаторых палітолягаў, якія забываюцца і пра пакаленьні беларусаў, што ляглі за гэтую Незалежнасьць у лягерах ГУЛАГу, і пра ахвярную працу тысячаў актывістаў БНФ і дэмакратычнага руху, якія Незалежнасьці дамагаліся. Але ізноў жа — у чым “антырасейская гістэрыя” Пазьняка, ягоны “радыкалізм”? У патрабаваньні беларускамоўнай адукацыі? У засьцярогах адносна праімпэрскай палітыкі Масквы? У заяве, што шлях Беларусі — шлях у Эўропу?

Яшчэ праз колькі нумароў *Свободные новости* прыводзяць словы лідэра Свабодных прафсаюзаў Генадзя Быкава: “...калі паставіць да сьценкі Зянона Станіслававіча і прапанаваць яму выбар “жыцьцё альбо Беларусь”, апошні, безумоўна, аддасьць жыцьцё” — і ставяць над тэкстам загаловак: “Абярэ сьмерць. Ды хто пульне?” У краінах, дзе пануе закон, такі загаловак быў бы адназначна расцэнены як падбухторваньне. У ЗША, напрыклад, гэта катэгорыя цяжкіх злачынстваў з усімі наступствамі.

Кожны мае права лічыць Пазьняка апосталам нацыі, як Быкаў, ці

**Пазьняк працягвае заставацца нацыянальным лідэрам. Гэта — факт**

надаваць яму супрацьлеглую характарыстыку, як некаторыя журналісты. Але ўсе гэтыя словы пра “дэбільны экстрэмізм”, “кулі” ды “генэтычны фонд” — эмоцыі. Журналіст мае права на эмоцыі, але першы ягоны абавязак — даваць чытачу інфармацыю.

Вакол Пазьняка, як і вакол ягонай партыі, цягам апошніх гадоў узьведзеная сьцяна сьвядомага замоўчваньня.

Дзясяткі актывістаў КХП-БНФ былі жорстка зьбітыя на плошчы Якуба Коласа ў час леташняга сьвяткаваньня 25 сакавіка (яны адмовіліся ісьці на Бангалор), але пра гэта ў большасьці незалежных газэтаў — ні радка. Прэсавую канфэрэнцыю, якая адбылася наступнага дня, наведаў толькі адзін журналіст — карэспандэнт Беларускай службы Радыё “Свабода”. Астатнія засталіся вернымі “байкоту”. В.а. старшыні партыі Юрась Беленькі некалькі сутак правёў за кратамі — таксама ні слова. Менавіта партыя Пазьняка арганізавала сьвяткаваньне гадавіны Слуцкага паўстаньня — ні радка ў большасьці незалежных выданьняў. Пра тыя дзясяткі акцыяў, што наладзілі актывісты партыі ў Віцебску, іншых рэгіёнах, — маўчаньне. І пра пікетаваньне актывістамі партыі г.зв. “народнага сходу” 18 траўня большасьць выданьняў не паведамілі, як і пра тое, што каля сарака пікетчыкаў былі затрыманыя, а кіраўнікі партыі — Мікола Анцыповіч і Ўладзімер Юхо — жорстка зьбітыя.

Увесну 2000 г. галоўнай актуаліяй палітычнага жыцьця Беларусі былі парлямэнцкія выбары. Партыя Пазьняка першай заявіла, што ня

Рэпліка

## Уплываць ці

Ці то патасны, ці то іранічны, але ў кожным разе не характэрны для Сяргея Навумчыка выраз “Пазьняк застанецца ў гісторыі”, на маю думку, пазбаўлены сэнсу. Па-першае, застацца ў гісторыі можна і пасьля “палітычнае сьмерці”, як і пасьля “абліваньня брудам” у прэсе. Па-другое, застацца ў гісторыі — зусім ня мэта той дзейнасьці, якая яшчэ й не наблізілася да выніку.

Некаторыя фрагмэнты гісторыі Сяргей Навумчык спрабуе ўзнавіць у сваім артыкуле для “Народнай волі”, які ад пачатку лета праляжаў там у шуфлядзе і друкуецца цяпер падноўлены ў “Нашай Ніве”. Хоць менавіта “Народнай волі” была адрасавана фраза: *“Адзіным выданьнем, дзе Пазьняк мог надрукавацца гарантавана, была створаная Сярэдзічам “Народная газета”*...

Гэта няпраўда. І я гатовы прывесьці цэлы сьпіс выданьняў, дзе Пазьняк мог заўсёды надрукавацца гарантавана. Але “падмазка” не спрацавала. Сярэдзіч не надрукаваў. Не захацеў, мабыць, сварыцца з калегамі-журналістамі. І тады тэкст прыблукаў у “Нашу Ніву”, нібы ў апошні прыстанак усялякай нацыянал-дэмакратычнай ініцыятывы. У тую “НН”, якую Зянон Пазьняк неяк трапна ахрысьціў “багемай, што рвецца ў палітыку”. У тую, якая заўсёды гарантавана публікавала Пазьняка. У тую, якой Пазьняк не аднойчы адмаўляў — то ў артыкуле, то ў інтэрвію.

Мне ўявілася тыповая сытуацыя напалову кінутай, забітай кабеты, што, перабіваючыся з хлеба на ваду, вядзе дом, гадуе дзяцей, адбіваецца ад заляцаньняў, а мужык — герой рысталішчаў (ці як там — апостал



У КАЛЯЖЫ ВЫКАРЫСТАНЫ ФАТАЗДЫМАК СКУЛЬПТУРЫ П.ЛУКА "АПОСТАЛ" (1989)

будзе браць удзел ня толькі ў выбарах, але і ў перамовах. Інфармацыя пра гэта замоўчвалася.

Праз паўгоду аргумэнты Пазьняка прызналі іншыя апазыцыянэры (за выняткам партыі Статкевіча) — але час быў страчаны. Ужо два гады Пазьняк гаворыць пра "своеасаблівае" стаўленьне нямецкай дыпляматыі да беларускай дэмакратыі ў ракурсе мэркантыльных расейска-нямецкіх паліўных і транзытных інтарэсаў — гэтыя словы не былі пачутыя (бо не былі надрукаваныя), таму цяперашнія крокі нямецкіх палітыкаў зрабіліся нечаканасьцю (а хутка будуць яшчэ больш непрыемныя сюрпрызы).

У выніку скажонай інфармацыі — памылковыя высновы.

Такія, напрыклад, як у Віктара Марціновіча з *БДГ*. Год таму, калі партыя Пазьняка ладзіла адну за другой акцыі ў сталіцы і ў правінцыі, ён пісаў, што "КХП-БНФ знакаў жыцьця не падае" і толькі "...бамбардуе рэдакцыі і інфармацыйныя агенцыі факсамі з запозьненымі камэнтарамі Зянона Пазьняка на ўжо неактуальныя для краіны тэмы".

Праверыў у сваім архіве: перад выхадам артыкулу Марціновіча Пазьняк выказваўся пра ўзмацненьне ролі спэцслужбаў Расеі ў Беларусі, пра небясьпеку вайсковай і фінансавай інтэграцыі з Масквой, пра паглынаньне расейскім капіталам беларускіх прадпрыемстваў, зьнішчэньне беларускамоўных клясаў. Неактуальна?

"Камэнтатар зь Зянона Станіслававіча ніякі, — працягвае Марціновіч. — Дый жыцьцё апазыцыйнага палітыка ў народнай сьвядомасьці вельмі кароткае. Яно складае некалькі гадоў пасьля зьнікненьня з поля зроку. Хто цяпер памятае палітыкаў Булахава і Дабравольскага? Гэтак і Пазьняк паволі забываецца".

Цікава, што праз некалькі тыдняў пасьля гэтага артыкулу Булахаў быў прызначаны на ключавую пасаду ў выканкаме СНД. А Дабравольскі пераабраны намесьнікам старшыні адной з самых буйных дэмакратычных партыяў.

## *Ні на кога з палітыкаў прэса ня выліла гэтулькі бруду, як на Пазьняка*

Ляйтматыў кожнай другой аналягічнай публікацыі — Пазьняка напаткала палітычная сьмерць. У часе чарговых "палітычных хаўтураў" па Пазьняку ў 1999 г. НІСЭПД правёў дасьледаваньне. На пытаньне "За каго б вы сёньня прагаласавалі на прэзыдэнцкіх выбарах?" атрыманы такі вынік: Лукашэнка — 38,4%, Чыгір — 3,4%, Шушкевіч — 2,4%, Пазьняк — 1,7%, Багданкевіч — 1,4%, Ярмошын — 0,7%.

Такім чынам, у сытуацыі інфармацыйнай блякады Пазьняк быў сярод асобаў, якія займалі альбо займаюць першыя месцы ў дзяржаве (прэзыдэнт, сьпікер, прэм'ер, старшыня Нацбанку), і ў два разы апярэджваў дзейнага прэм'ер-міністра.

А вось вынікі апытаньня менскай моладзі, зьмешчаныя на вэб-сайце Маладога Фронту ў той час, калі *БДГ* канстатавала адсутнасьць папулярнасьці Пазьняка ў моладзі (сьнежань 1999 г.): Лукашэнка — 10, Пазьняк — 8, Чыгір — 6, Шушкевіч — 4. У аб'ектыўнасьці МФ, якія на "падзельным" зьездзе БНФ практычна ў поўным складзе галасавалі супраць Пазьняка, сумнявацца не даводзіцца.

Існуюць апытаньні, дзе рэйтынг Пазьняка значна вышэйшы, але я сьвядома прыводжу менавіта тыя, дзе ён мінімальны. Бо нават і пры такіх выніках ён уваходзіць у пяцёрку лідэраў. І гэта — пры аплёўваньні як афіцыйнай прэсай, так і большасьцю незалежных выданьняў. Дадам, што ў заходніх краінах палітык лічыцца ўплывовым, калі трапляе ў першую сотню (дарэчы, большасьць кангрэсмэнаў, сустрэчы зь якімі апазыцыянэраў "новай хвалі" падаюцца некаторымі выданьнямі як "міжнародны прарыў", не ўваходзяць у амэрыканскую сотню — але гэта сапраўды ўплывовыя асобы). Нарэшце, пры інфармацыйнай блякадзе і спадзяваньні толькі на свае сілы актывісты КХП-БНФ сабралі за Пазьняка больш як 70 тысячаў подпісаў (гэта тое, што афіцыйна прызнала камісія Ярмошынай).

Сьцьвярджэньне ж, што толькі той "палітычна не памёр", хто зойме пасаду прэзыдэнта, а астатнія нічога ня вартыя, — вельмі нагадвае прапанову скасаваць усе газэты і абмежавацца адной.

Прэса ня толькі паказвала Пазьняка асобай, непапулярнай сярод насельніцтва, — апошнія гады яна падкрэсьлівала, што Пазьняк згубіў папулярнасьць сярод беларускіх патрыётаў.

І вось — апытаньне на вэб-сайце Франака Вячоркі (сына Вінцука) — за каго б вы галасавалі на прэзыдэнцкіх выбарах? У якасьці асноўных кандыдатаў аўтар сайту вызначыў трох — Домаша, Чыгіра і Ганчарыка, але дадзеныя і іншыя імёны (ад якіх, як напісаў аўтар, "нічога не залежыць"). Вынікі (на момант існаваньня сайту): Пазьняк — 34%, Домаш — 28; Быкаў — 15, Сурвілла — 8, Лукашэнка — 3, Чыгір — 2, Казлоўскі — 1. Як вядома, Сурвілла і Быкаў не вылучаліся на гэтых выбарах.

Газэта "Наша Ніва" праводзіла аналягічнае апытаньне на працягу некалькіх месяцаў. Там Пазьняк таксама аказаўся на першым месцы, набраўшы амаль удвая больш галасоў, чым Домаш. Тое, што Пазьняк працягвае заставацца нацыянальным лідэрам, можа камусьці не падабацца. Але гэта — факт.

Абектыўнае, крытычнае, нават жорсткае стаўленьне прэсы да палітыкаў — закон у цывілізаваных краінах. І было б дзіўным прапаноўваць у дачыненьні да нейкага палітыка ў Беларусі (альбо партыі, якую ён узначальвае) іншую танальнасьць. Стаўленьне можа быць станоўчым альбо адмоўным, але абавязкова — адпавядаць фактам.

Ад прэсы залежыць шмат. Калі б перад другім турам парлямэнцкіх выбараў у 1990 г. *Вечерний Минск* не надрукаваў, а рэгіянальныя газэты не передрукавалі паклёпніцкі артыкул пра БНФ, — у Вярхоўным Савеце было б не 30 дэпутатаў БНФ, а 130, і гісторыя пайшла б іншым шляхам.

Каб у свой час журналісты сапраўды падтрымалі Пазьняка (як цяпер Домаша ды Ганчарыка), не ганьбячы за выказваньні, зь якімі потым самі пагаджаліся, — рэйтынг Пазьняка дазволіў бы яму яшчэ сем гадоў таму перамагчы на прэзыдэнцкіх выбарах (праўда, была яшчэ адна ўмова — каб у той час лідэры цяперашняй апазыцыі не прасоўвалі Лукашэнку). Аднак здарылася інакш.

Парадаксальна, але адносіны Пазьняка і прэсы настолькі сапсаваныя, што прэса ўжо ніяк ня здольная зьменшыць гэты самы рэйтынг. Пазьняк цяпер не залежыць ад СМІ, што сапраўды ўнікальна для палітыкаў, якія традыцыйна шукаюць падтрымкі журналістаў.

Але мне падаецца, што нават самыя зацятыя непрыхільнікі Пазьняка пачынаюць разумець, што гэтая фігура — незалежна ад таго, стане Пазьняк прэзыдэнтам ці не, — застанецца ў гісторыі Беларусі.

Надоўга застануцца і артыкулы пра яго.

Кажуць, адзін літаратурны крытык усю старасьць патраціў на выразаньне з падшывак бібліятэкаў тагачаснага СССР сваіх артыкулаў часоў барацьбы з "нацдэмамі". Нібыта багата газэт папсаваў.

А ў Інтэрнэце ж нажніцамі не пастрыжэш...

# крыўдаваць?

нацыі) — гады ў рады саізволіць зазірнуць дахаты, пройдзецца каралём сюды-туды, заўважыць, што "эта нікуда не гадзіцца", разьвернецца і зноў — у шырокі сьвет. Ужо ж перабачылі мы такіх.

Менавіта Зянон Пазьняк паставіў бар'ер паміж сабою і *сваёй* прэсай. Яшчэ тады, у 80-я, калі выганяў Гуркова за тое, што той гандляваў "парнаграфіяй" Глёбуса. Яшчэ тады, калі на адным са зьездаў пераконваў фронтаўцаў падтрымаць "Навіны БНФ" — фантомны праект, тады як "Свабода", што выходзіла поплеч, атрымлівала зь ягонага боку ў лепшым выпадку ігнарацыю. Яшчэ тады, калі байкатаваў адноўленую "Нашу Ніву" (тады ў Вярхоўным Савеце газэту падтрымаў А.Трусаў...).

Не бяда, што Пазьняка "аблівае брудам" прэса, якая на яго ніколі ня ставіла. "Бруд" гэты, на жаль, ня менш за пахвальбу падвышае рэйтынг палітыка. Бяда, што *прапазьнякоўская* прэса ніколі не разглядалася ім як свой інфармацыйны плацдарм. Якраз гэта найперш характарызуе дачыненьні Пазьняка і прэсы. Так было і так ёсьць. (Вячорка, дарэчы, аказаўся цалкам пасьлядоўным пераемнікам гэткага прынцыпу беларускай народнай цемнаты, калі сваё — нічога ня вартае, а чужому — і лёсткі, і крыўды)

Між тым, адзіны спосаб дачыненьня палітыка з прэсай — гэта ўплыў на яе. Не згадаю, каб у БНФ нехта калісьці ставіў такую задачу як стратэгічную. Там хутчэй пабойваліся прэсы і крыўдавалі на яе. У выніку менавіта прэса ратавала і ратуе гонар беларускай дэмакратыі.

Іншы раз мне здаецца, што ўсе ў нас паставілі не на тых...

Калісь у першых Соймах БНФ сядзелі акадэмікі, народныя паэты, мастакі, мэтры эканомікі і юрыспрудэнцыі... Дык у параўнаньні зь імі цяперашняя КХП сапраўды выглядае маргінальнай суполкай. Адсюль і насьмешкі з боку *не сваёй* прэсы (маўляў, "сьвіта" робіць караля). *Свая* прэса не-не дый скажа пра... трагічную фігуру Пазьняка.

Але няма трагічнай фігуры. І тыя, хто раз на тыдзень слухае Пазьняка на 612-ці кілягерцах, гатовыя падпісацца пад ягонымі словамі. Але "сьвіта" й сапраўды выйшла "на лева пашыта". Памятаю, якая публіка траплялася сярод зборшчыкаў подпісаў за Пазьняка... Такі сабе вахцёрска-лёкайскі кшталт. Не хачу нікога канкрэтна абразіць, кажу пра вобраз, які склаўся ў многіх. Крыўдна было глядзець на гэтых сьпітых цётак побач з рэспэктабэльнымі зборшчыкамі за іншых палітыкаў. З такімі, думалася, сапраўды толькі пралетарскую рэвалюцыю рабіць. Але пры чым тут мы? Зрэшты, як і Пазьняк.

Сытуацыя выпраўляльная ў любы момант. І стварэньне ўплыву на прэсу — цалкам у магчымасьцях Зянона Пазьняка. Ня думаю, што яму адмовіла б у інтэрвію любая з названых Сяргеем Навумчыкам недзяржаўных газэт. І многія эмацыйныя наезды на Пазьняка выкліканыя якраз няспраўджанымі надзеямі журналістаў на дужага рыцара, апостала нацыі, героя, які пераможа цмока.

На прэсу (любую) ня трэба крыўдаваць. Ня мае сэнсу. Гэта прэса можа пакрыўдзіцца, што для палітыка — знак, званок. На прэсу трэба ўплываць.

Зрэшты, на маю думку, Пазьняк сёньня — на сваім месцы. Ён дае ацэнкі падзеям і вымалёўвае стратэгічную пэрспэктыву, якую падзяляюць многія тысячы ягоных слухачоў. Хоць шмат хто і разумее, што са сваім цяперашнім партыйным атачэньнем ён гэтых мэтаў не дасягне ніколі.

**Сяргей Дубавец**

## Новыя кнігі, дасланыя ў рэдакцыю

**Энцыкляпэдыя гісторыі Беларусі**. У 6 т. Т.6. Кн.1. Пузыны [у выходных зьвестках; на вокладцы - Пузелі] – Усая / Г.Пашкоў (гал. рэд.) ды інш.; Мастак Э.Жакевіч. – Менск: Беларуская энцыкляпэдыя, 2001. – 592 с.: іл. – Наклад 10000 ас. ISBN 985-11-0214-8

*Зьмешчаныя артыкулы пра Раду БНР, Слуцкае паўстаньне 1920 г. Пры афіцыйных назовах паселішаў часам даюцца традыцыйныя нацыянальныя (Смаргонь – Смургоні, Свяцк –Свяцак). У артыкуле пра сацыялізм рэзюмуецца, што "сыстэма, створаная ў 1930-я, не па праву прэтэндавала на назоў сацыялістычнае, бо адмаўляла прынцып свабоды й сацыяльнае справядлівасьці". Дзейнасьць патрыётаў з Саюзу Беларускае Моладзі ў часе апошняе вайны называецца здрадніцкаю. Цікавая інфармацыя высьвятляецца з энцыкляпэдыі пра старшыню Дзяржкантролю А.Тозіка. Ён аўтар кніг "Рэакцыйная сутнасьць сучаснага нацыяналізму" (1985), "Саюз – наш лёс (аб праблемах захаваньня саюзнае дзяржаўнасьці" (1991) і шэрагу працаў з гісторыі й чыннасьці КГБ. Цана ў кнігарнях 6 т. р.*

І.Навуменка, Т.Мароз. **Вывучэньне творчасьці Максіма Багдановіча ў школе**: Дапаможнік для настаўнікаў. – Менск: Беларуская навука, 2001. – 157 с. – Наклад 6000 ас. ISBN 985-08-0456-4

**Памяць:** Гістарычна-дакумэнтальная хроніка Менску. У 4 кн. Кн.1 / Рэд. кал.: Г.Кісялёў ды інш.; Укл. А.Ляўшэвіч, В.Семенякоў; Навук. рэд. Г.Штыхаў; Мастак Э.Жакевіч. – Менск: БелТА, 2001. – 576 с.: іл. – Наклад 5000 ас. ISBN 985-6302-33-1

*Першая кніга менскае хронікі ахоплівае пэрыяд гісторыі гораду ад V–III тыс. да н.э. да сярэдзіны XIX ст. У сваіх артыкулах аўтары бадай заўсёды пасьлядоўна карыстаюцца формай Менск. Агулам аўтараў 1-га тому пад 160 чалавек. Кніга багата ілюстраваная, каштуе 6 т. р.; дамовіцца пра набыцьцё можна праз тэл. 221-26-98.*

**Ідыёт самы настаяшчы**: Першаму прэзыдэнту РБ прысьвячаецца: Творы й экспромты ў розных жанрах / Укл. К.Атрашэўскі, Л.Буракоўскі; 2-е выд., папраўленае й дапоўненае. – Менск–Варшава–Масква, 2001. – 186 с. ISBN 83-85118-99-8

*Кніга складаецца з паэмаў, песьняў, прыпевак, абразкоў, улётак, жартаў, показак. Сярод аўтараў Сл.Адамовіч, Вядзьмак Лысагорскі, С.Сокалаў-Воюш, Адам Глёбус, Віктар Шалкевіч ды інш. вядомыя й невядомыя беларуска- й расейскамоўныя творцы.*

Л.Козик, М.Мясникович, А.Абрамович и др. **Беларусь и Россия: организационно-правовые основы интеграции** (1996-2000). – Менск: Полымя, 2001. – 335 с. – Наклад 2000 ас. ISBN 985-07-0442-X

*Аўтары падводзяць навуковы грунт пад беларуска-расейскае "яднаньне". Каштуе 6,7 т. р.*

**Падрыхтаваў Віктар Мухін**

**1 лістапада бард Сяржук Сокалаў-Воюш запрашае ўсіх на прээнтацыю свайго новага альбому "Нефармальны Беларус", якая адбудзецца ў ДК Беларускага таварыства глухіх (Уральская, 3). Пачатак а 19-й. Квіткі каштуюць ад 1000 да 3000.**

### Дзе варта быць

## Дзень сьвятога Губэрта

**3 лістапада Горадня сьвяткуе дзень свайго сьвятога патрона.** Кавярні, касьцёлы і Каложа чакаюць гасьцей і пілігрымаў. А ў цэнтральным выстаўным салёне ідзе вартая выстава мастака Сяргея Грыневіча.



## Цырк у лядовых палацах

**Па краіне будзе гастраляваць расейскі цырк на лёдзе "Шангры-Ла".** 3 лістапада шоў будзе ў Берасьці, 5-га - у Горадні, 6 і 7-га - у Менску, 8-9-га - у Віцебску, 10-11-га - у Магілёве. Штодня ў кожным з гарадоў два выступленьні - а 15-й і а 19-й, 7-га ў Менску яшчэ і а 12-й. Большасьць цыркачоў - прафэсійныя фігурысты.

## "Белшына" – чэмпіён

**Аматараў экстрэмальных вандровак і гістарычных падзеяў 3 лістапада Бабруйск запрашае на гульню "Белшына"—"Дынама" (Менск).** Калі бабруйскі клюб пераможа, ён датэрмінова зробіцца чэмпіёнам Беларусі. На гульні можна будзе пабачыць самага "непрабівальнага" ў Беларусі брамніка Валер'я Шанталосава ды братоў Градабоевых зь "Белшыны", а таксама Малафеева. Да Бабруйску можна даехаць электрычкай зь перасадкай у Асіпавічах на дызэль. Ад чыгуначнага вакзалу да стадыёну - пару прыпынкаў па адзінай у горадзе лініі тралейбусу. Выедзьце зараней: у горадзе ёсьць цікавыя памяткі жыдоўскай архітэктуры.

## Дзядзька Рыгор

**У аўторак, 30 кастрычніка, у 18.30 у бібліятэцы імя Янкі Купалы адбудзецца сустрэча з Рыгорам Барадуліным.** Паэт будзе чытаць новыя вершы.

## Выстава з абразом

**"Заступніца роднага краю" — пэрсанальная фотавыстава Сьцяпана Надольскага,** прысьвечаная абразу Будслаўскай Божай Маці, адкрылася ў Дзяржаўным музэі гісторыі беларускай літаратуры ў Менску (у Траецкім). Маці Божая Будслаўская - нябесная заступніца Беларусі.

**Дзяніс Носаў**

## Маскі скульптара Вераб'ёва

**У Музэі сучаснага мастацтва (каля пл.Якуба Коласа) ідзе выстава магілёўскага скульптара Андрэя Вераб'ёва "Маска на кожны дзень".** Аўтар выставіў больш як 30 гіпсавых, бронзавых, керамічных аўтапартрэтаў. Сярод іх - галовы ў выглядзе збана, калюмны, гадзіньніка, стосу масак. Стварыць сэрыю дзіўных аўтапартрэтаў Вераб'ёва натхніла няўпэўненасьць у існаваньні ня толькі самога сябе, але і ўсёй беларускай інтэлігенцыі.

**Юрась Барысевіч**

# Сустрэча з Радзімай

### *Роздум пра катэгорыі часу і адноснасьці ў бардаўскай песьні*

Усё ў сьвеце адносна. Гэтая катэгорыя закранае ў тым ліку і бардаўскую песьню, якая здольная часам пастарэць куды хутчэй, чым разьлічваюць ейныя аўтары. Зьмяняюцца жыцьцёвыя абставіны, і актуальнасьць песень траціцца, асабліва калі яны напісаныя былі на злобу дня. Тое датычыць і Сержука Сокалава-Воюша.

У свой час ён, з натуры трыбун, быў надзвычай запатрабаваны. Ягоная творчая душа кіпела ва ўнісон зь вірлівымі падзеямі. Песьні пісаліся хутка і гэтак жа хутка знаходзілі водгук у грамадзтве. Гэта былі хутчэй апэратыўныя праклямацыі, найлепшая зь якіх — "Фронт". Аднак праклямацыя — жанр здрадлівы. Зьмяніўся "Фронт" не да спазнаньня, былы ягоны лідэр будзённа сышоў з арэны, а аўтар песьні, што ў тыя гады гучна заявіў "Мне чужых краёў ня трэба", зьехаў з радзімы. Зьдзекавацца з гэтага не лічу дапушчальным, бо ў сказаным табой некалі можна адшукаць што хочаш!

Сокалава-Воюша называюць адным з пачынальнікаў беларускай бардаўскай песьні. Лухта! Бардаўская песьня гучала ў Беларусі ў выкананьні беларусаў яшчэ ці не да зьяўленьня Сержука на гэты сьвет. Што, Арона Крупа габрэйскім сьпеваком называць ці расейскім?! Бо сьпяваў *"Все леса, леса, леса Белоруссии..."* па-расейску? Ня мова дыктуе якасьць! Дрэнная, пустая, ніякая песьня толькі ганьбіць мову, на якой выконваецца. Можна растыражаваць дзясятак альбомаў, стаўшыся ў пэўных колах жывой легендай, а па-за межамі тых нешматлюдных колаў застацца ўсяго толькі графаманам ад гітары.

Мне хочацца паспрабаваць зьняць некаторы ажыятаж вакол цырымоніі, занадта гучна названай "прээнтацыяй" кампакт-дыску. Каб гэтыя запісы зьявіліся гадоў з восем таму, тады яны былі запатрабаваныя.

"Аксамітны вечар" — гэта годны ўзровень, цыкл пра касінэраў — магчыма, пэўная, аднак даволі лякальная паэтычная зьява. А вось песьні, якія можна было б на-



зваць сатырычнымі... Што гэта? Што такое наагул — беларуская сатыра? Кандрат Крапіва? Міхась Скрыпка? Мікола Вяршынін? Песьні гэтыя, асабліва цяпер, успрымаюцца як анахранізм. Дый на мэлёдыях па-за плякатнасьць гэтыя аматарскія па сутнасьці творы не выходзяць.

Можна на працягу многіх гадоў ліць сьлёзы па страчанай дзяржаўнасьці, зьбэшчанай Пагоні, паганым сьцягу, зьнявечанай мове. Але чым далей, тым больш пазыцыя гэтая робіцца недарэчнай. Песьня "Фронт", на жаль, маральна састарэла, а новых песень, на яшчэ большы жаль, на тым дыску я не пачуў. Тое, што запісана, вартае цяпер настальгічных пасядзелак у інтэрнацыі пакоі. Час паказаў, што ўсе тыя "высокамастацкія" енкі па мове, сьцягу, Пагоні адыходзяць. Можа, менавіта з-за таго, што мы залішне часу ды энэргіі аддалі, зьвяртаючыся да сумленьня і сьвядомасьці людзей, падчас апошніх выбараў канкрэтных дзеяньняў і было менш за ўсё! Зноў гучалі лёзунгі: "Нам нельга сысьці з гэтай плошчы!", "На Менск ідуць калёны працоўных!", "Заўтра пачнецца ўсебеларускі страйк!" I што? Для перамогі не хапіла нейкіх пяці мільёнаў галасоў. На плошчы гучаў новы "бард" Мікалай Трацьцякоў, гучаў *Modern Talking*. Песень Воюша чуваць не было. Можа, і добра, што ён аддаваў час працы на "Свабодзе", не страсаў паветра, а займаўся нечым канкрэтным.

Сяргей Дубавец пісаў пра Сокалава-Воюша ў часопісе "Мастацтва" ў 1989 г., нібы прадказваючы сёньняшнюю сытуацыю: "Ён (Со*калаў-Воюш — Д.П.*) заняты ня столькі самавыражэньнем, колькі забесьпячэньнем грамадзкага попыту на бардаўскую песьню, вершы, лёзунг і г.д.... Ён ня піша для вечнасьці...".

Каб прээнтаваць гэты альбом, варта было б сабраць шматтысячны мітынг. I тады б Сяржук адчуваў сябе як рыба ў вадзе. Ягоныя песьні пад дахам, у канцэртнай залі, — гэта ўжо нават не тэатральная ўмоўнасьць. Нельга сёньня сьпяваць "Фронт", калі песьню тую будуць слухаць седзячы! Яна — марш, а гэта ў Беларусі цяпер ня самы папулярны жанр.

Вядома, што творы некаторых паэтаў набываюць шырокую аўдыторыю праз шмат гадоў пасьля таго, як аўтары пайшлі з жыцьця. I яны тады нібыта вяртаюцца да нас. Талент крытыка-публіцыста рэдка калі перасягае талент сапраўднага паэта. Яны могуць жыць у адзін час і пісаць пра адно і тое ж, але публіцыста забудуць ужо на 41-ы дзень. Паэта ж будуць цытаваць многія гады.

Аматарскі ўзровень станаўленьня нацыянальнага ў мастацтве, нават у бардаўскай творчасьці, прайшоў у нас настолькі імкліва, што ў тых, хто на той цягнік спазьніўся, страцілася адчуваньне часу. Пераканаць электарат, які жыве ў атачэньні няхай папсовай па сутнасьці, аднак прафэсійна зробленай музыкі, можна толькі творамі адпаведнага ўзроўню. Палітыкі-аматары ня здольныя перамагчы рэжым, як аматары-піїты — павесьці за сабой людзей. Ян Петшак у свой час напісаў маршавую песьню са словамі "Ад Таронта да Табольску каб жа Польска была Польскай" — і песьня тая зрабілася ня толькі неафіцыйным гімнам "Салідарнасьці", але й аб'яднала ўсю краіну. Гучала яна і ў Віцебску на II фэстывалі польскай песьні. Нам застаецца толькі спадзявацца на хуткае зьяўленьне аўтара гэткага маштабу.

Калі ён ці народзіцца тут, ці вернецца на радзіму...

**Дзьмітры Падбярэскі**



Р.Панцялееў "Бард беларускі. Сяржук Сокалаў-Воюш". Дрэварыт, 1989.

## "Быліца пра Шыбара"

"...Сокалаў-Воюш уяўляецца мне найбольш выразным тыпам сучаснага беларускага адраджэнца. Даволі лёгка вызначаюцца прычыны і характар ягоных учынкаў. Ён менш інтымны, чым чысты паэт, і больш інтымны, чым Дзям'ян Бедны. Ягоная творчасьць — гэта сьвядомае спалучэньне розуму і інтуіцыі, інфармацыі і дзіва, густу і прымітыву".

"...Ён ня піша для вечнасьці і сьвядома ідзе на тое, што сёньняшнія ягоныя заўзятары заўтра будуць сарамліва ўспамінаць пра яго як пра сэнтымэнтальны эпізод уласнага нацыянальнага сталеньня. ...Ён — гэта ўводзіны ў беларушчыну, якія перадаюцца з рук у рукі разам зь "Зямлёю пад белымі крыламі" Ў.Караткевіча. Вось што забясьпечвае яму вечнасьць. Яна блізкароднасная зь вечнасьцю Дзюма, Купэра, Лондана. Іхныя творы, пісаныя для дарослых, сталі выхавальнікамі дзяцей".

**Сяргей Дубавец, "Мастацтва Беларусі", №10, 1989 г.**

### Казкі жыцьця

## Восень на дарогах

Лісты з дрэваў увосень кладуцца на дарогу. Таму хадзіць па ёй трэба асьцярожна, пераступаючы сухія шапаткія гурбы, якія не пасьпелі яшчэ прыбраць падмятальшчыцы ў аранжавых вопратках — дарожныя анёлы зь мётламі. У старадаўняй кнізе чытала, што анёлаў малявалі калісьці з абавязковымі посахамі, якія пазьней ператварыліся ў крыжы і мячы ў іх руках... Бывае, ідзеш увечары — і баішся наступіць на адзінкавыя "залатыя зоры" на мокрым чорным асфальце. Поўнае адчуваньне, што лунаеш у касьмічнай прасторы, лявіруючы паміж зорамі. Улёт!

Але ёсьць кавалак дарогі, што выклікае зусім ня радасьць і ўладарную ўзьнёсласьць, а зьбянтэжанасьць, боль, актуальныя асацыяцыі. Як пераходзіш галоўны праспэкт у раёне парку імя Янкі Купалы, адразу трапляеш у экстрэмальныя ўмовы руху. Пасьля "астраўка бясьпекі" трэба кіравацца ўбок, на агароджаную абы-як бэтонным блёкамі вузкую стужку праезнай часткі: на былой пешаходнай дарожцы ўжо другі месяц вецер лашчыць пяшчаныя барханы.

Гэта дарожныя будаўнікі спынілі тут кладку пліткі, і ў самым цэнтры эўрапейскай сталіцы — Менску (а можа, і Эўропы) утварылася маленькая сымбалічная пустыня. Якраз пад вокнамі рэстарану "Узбэкістан", шыбы якога расьпісаныя ўсходнім арнамэнтам (праўда, у сініх, абведзеных белым ягоных "аскепках" мне часта бачыцца... вобраз васілька). Тут жа, за рогам "Узбэкістану", — дарога ў пячоры-сутарэньні і надпіс: "Клюб-бар "Экспансія".

Гэта з правага боку штучнай пустэльні. А зь левага — шырокая, роўная, разьмечаная дарога для імклівага аўтамабільнага транспарту, у пяць палосаў туды і сюды. I круглы будынак цырку — як сымбаль аб'яднанай Эўропы, з рэклямным шчытом над уваходам: "Трыюмф XXI стагодзьдзя. Тыгры на люстраных шарах".

Іду па вузкім, няпростым праходзе, манэўруючы між бэтоннымі блёкамі, цэлымі і пабітымі, раскіданымі бяз сэнсу. Справа Азія, зьлева Эўропа, а нам — гэты нязручны калідор пад адкрытым небам, створаны быццам бы для бясьпекі і часова...

I вось ён канчаецца. Каля дому №11 на вуліцы Купалы проста перад маімі нагамі з каналізацыйнага люку вылазіць ніякага веку чалавек у шэра-зялёным адзеньні рабочага падземных камунікацыяў. Я зьдзіўлена сьціскаю замерзлыя пальцы, прыгадаўшы героя любімай кніжкі дзяцінства — "Машыны часу" Гербэрта Ўэлза. Рабочы павольна азіраецца вакол сябе як невідушчымі вачыма...

**Людка Сільнова**

## Стракатае "Адраджэньне капэлі"

**На адкрыцьці XI фэстывалю "Адраджэньне беларускай капэлі" выступаў ансамбль "Клясык-авангард" пад кіраўніцтвам Уладзімера Байдава.** Музыка гучала вельмі розная: бліскучыя апрацоўкі танцаў зь "Віленскага сшытку" і "Плянктаў" (касьцельных сьпеваў XVII—XVIII ст.), танцы Голанда і Ельскага, дзьве п'есы чэскага кампазытара Багуслава Марціну, новы і сымпатычны твор беларуса Вячаслава Кузьняцова з красамоўнаю назваю "Кіч-музыка".

Праграма атрымалася стракатая — у кантрасьце са строгай манаграфічнасьцю ранейшых фэстываляў "Капэлі". Піяніст Ігар Алоўнікаў зайграў ня толькі Тарасевіча, Манюшку і Агінскага, але і ўласныя транскрыпцыі з эўрапейскай клясыкі. Хор "Унія" выканаў царкоўныя сьпевы ўсіх магчымых стыляў, эпохаў і канфэсіяў. Сёньня ў касьцёле Сьв.Роха адбудзецца канцэрт вакальнай музыкі "Званы старое казкі...", дзе прагучаць цыклі Шумана, Шубэрта і Брамса ў перакладах на беларускую Васіля Сёмухі.

**Юлія Андрэева**

## Славамір Адамовіч піў у Горадні

**22 кастрычніка ў штаб-кватэры Гарадзенскага БНФ прайшла вечарына экстрэмальнай паэзіі, зладжаная мясцовым Маладым Фронтам і Гарадзенскім клюбам паэтаў.** У якасьці "зоркі экстрэмальнага жанру" выступіў паэт Славамір Адамовіч. Арганізатары не чакалі, што ахвотных пачуць экстрэмальныя вершы зьбярэцца ўдвая больш, чым магла зьмясьціць заля.

У Беларусі экстрэмальная паэзія нарадзілася пры канцы 80-х як адна з формаў сацыяльнага і эстэтычнага пратэсту супраць панучага ладу. Асаблівага росквіту яна дасягнула ў творчасьці Славаміра Адамовіча, Лявона Вольскага, Юр'я Гуменюка, Андрэя Пяткевіча або рок-гуртоў кшталту *Deviation*.



Галоўнае ў экстрэмальнай паэзіі — непрыняцьце навакольнай рэчаіснасьці, ігнараваньне ўлады і дзяржавы, нонканфармізм, "новы байранізм" — супрацьпастаўленьне творчай індывідуальнасьці натоўпу. Асаблівае месца яшчэ з часоў гарбачоўскай перабудовы ў творчасьці паэтаў-экстрэмалаў займае "прэзыдэнцкая тэматыка".

На вечарыне чыталі вершы Юры Гумянюк, Анатоль Брусевіч, Эдзік Мазько, Павал Мутны і,

## Віктар Шніп




Мне было гадоў пяць, і я гадаваўся ў бабулі Ганны ў Лягезах. Вёска невялічкая — хат дзесяць. Дзяцей у Лягезах амаль не было, і мне часьцей за ўсё даводзілася гуляць аднаму. Тады па радыё і ў размовах старэйшых мне даводзілася чуць пра нейкую Амэрыку, што знаходзіцца недзе пад намі і дзе жывуць вельмі дрэнныя людзі, якія хочуць зьнішчыць ня толькі нас, але і ўсіх, хто жыве на зямлі. Наслухаўшыся пра дрэнных амэрыканцаў, мая дзіцячая галава высьпеліла ідэю: у суседкі ў садзе ёсьць глыбокі (відаць, праз усю зямлю) калодзеж, празь які можна пабамбіць амэрыканцаў камянямі, якіх навалам на палях. І я, назьбіраўшы камянёў, падцікаўся, як партызан, у суседчын сад да калодзежа і пачаў бамбіць Амэрыку. Ня ведаю, ці патрапіў у Амэрыку, але суседцы на вочы — дакладна. І яна мяне прагнала. Я вельмі пакрыўдзіўся на цётку — як жа гэта яна не разумее, што я раблю карысную справу! І ад крыўды прыдумаўся пра цётку вершык, зь якім заўтра зноў прыйшоў да калодзежа кідаць камяні ў дрэнных амэрыканцаў. А суседка зноў прагнала мяне ад калодзежа. І я, адбегшыся, прачытаў цётцы вершык. Цётка вырвала пук крапівы і, дагнаўшы мяне, добра адсьвянцала. А я не разумеў, за што...

Сяджу на беразе Яршоўкі, якая аддзяляе мае Лягезы ад суседняй вёскі Крапіўнікі. Мне хочацца на той бераг, але я памятаю словы бабулі Ганны: "Глядзі, калі ўтопішся, дамоў не прыходзь..." Я гляджу на ціхую і празрыстую плынь ракі, якую мне ні за што не перайсьці. І раптам бачу: нейкі дзядзька, зрабіўшы ўсяго некалькі шырокіх крокаў, амаль не змачыўшы ног, перайшоў рачулку і зьнік у прырэчным кустоўі. І я ўспомніў бабулін расповед пра Ісуса Хрыста, які хадзіў па вадзе, як па сухім... Пазьней, за некалькі гадоў, я таксама змог перайсьці Яршоўку, амаль не змачыўшы ног, — у вадзе ляжалі камяні, якія не адразу можна было заўважыць.

Каля Русакоў у сажалцы вадзілася рыба. І я там часта падоўгу сядзеў. Часам нейкіх карасікаў і падчэпліваў, але найбольш мой паплавок гойдаўся на хвалях безвынікова. І ўсё ж я дачакаўся вялізнай рыбіны. І тут пачалося — зьбеглася ўся русакоўская дзятва, хто з кашом, хто зь вядром, хто з калом, а хто і з камянямі, і давай "лавіць" рыбу. А я сяджу каля вады са сваёй рыбінай і ня ведаю, што рабіць. І тут падбег нейкі хлапчук і кінуў камень проста мне ў галаву. Я паваліўся і выпусьціў з рук рыбіну. Падбеглі хлопцы, схапілі маю здабычу і, укінуўшы яе ў кошык, разьбегліся хто куды. А я ляжаў ля сажалкі і глядзеў на камень, на якім цямнелася чырвоная плямка — мая кроў.

З бацькам на возе едзем у Гарадок, здаваць жыду агрэст. Вязем тры мяхі. Павінна быць немалая капейка, а чым большая яна будзе, тым больш бацька абяцаў патраціць на мяне. І я перад дарогай, пакуль бацька быў у хаце, у кожны мех з агрэстам для вагі паклаў па некалькі камянёў. Дарога перад Гарадком брукаваная, і воз наш трасецца, як шалёны. А я гляджу на дарогу і думаю: "Вось бы ў агрэст падкласьці пару камянёў з брукаванкі. Была б капейка яшчэ большая..." Жыд зважыў нашы мяхі з агрэстам, нешта напісаў алоўкам на паперы і выдаў бацьку грошы. Бацька палічыў і пацікавіўся: "Чаму пяцідзесяці капеек не дадаў?" "А гэта мне на камяні ў агрэсьце..." — адказаў жыд і падміргнуў мне.

З мамай выехалі ў Ракава на кірмаш. Ад аўтастанцыі ісьці далекавата, і я ўсё спрабую загітаваць маму пайсьці праз невялічкі сасоньнік. "Не выдумляй!" — не згаджаецца мама і вядзе па дарозе, па якой ходзяць усе. "Пайшлі наўпрост. Там сярод камянёў ёсьць сьцяжынка..." — не сьціхаю я. І мама кажа: "Там не камяні. Там жыдоўскія могілкі..."

Ідучы да дзеда, у дарожным пыле знайшоў гадзіньнік. Прынёс знаходку дзеду, спадзяюся, што той пахваліць мяне, дасьць капеек на цукеркі. Дзед паглядзеў на гадзіньнік і сказаў: "Гадзіньнік, відаць, быў нядрэнны, але цяпер у ім двух камянёў не хапае..." "Якіх?" — пацікавіўся я. "А хаця б вунь тых, што ляжаць пад плотам. Аднаго зьнізу, а другога зьверху..." — адказаў дзед і аддаў мне назад маю знаходку.

Пасьля ўрокаў на сажалцы, што каля школы, мы амаль кожны дзень гулялі ў хакей. Клюшкі — з крывых бярозак, а шайбы — каменьне — шукалі на дарозе-насыпанцы. Добра, калі зіма выпадала маласьнежнай і "шайбаў" на дарозе было колькі захочаш, але былі і сьнежныя зімы. І вось у адну такую зіму мы засталіся бяз шайбаў. Ня ведаю, як бы мы гулялі ў хакей, калі б ня Мішка Зосін, які шчэ восеньню назьбіраў каменных шайбаў і амаль кожны дзень нам іх прадаваў. Цяпер Мішка Зосін — бізнэсмэн, гандлюе на стадыёне "Дынама" жаночымі ўпрыгожаньнямі.

Гадоў дваццаць пяць таму на лузе каля лесу ляжаў велізарны камень. Пасучы каровы, пастухі каля яго раскладалі вогнішча, грэліся. І камень быў чорны, як чорт. Бацька мой каля гэтага каменя ніколі цяпельца ня клаў і мне не дазваляў. І я пацікавіўся: "Чаму нельга каля каменя пагрэцца?" Бацька расказаў гісторыю, якую яму яшчэ ягоны дзед расказваў: камень зваліўся зь неба, і прыйдзе час, калі ён паляціць туды, адкуль прыляцеў, таму цяпер нельга яго чапаць, можа здарыцца бяда. Цяпер на лузе таго каменя няма...

Бацька сабраўся заводзіць самагонку. Падрыхтаваў усё, што трэба, распаліў печ, а мяне паслаў на вуліцу прынесьці пару камянёў. Я, доўга не шукаючы, ухапіў ля ганку пару каменьчыкаў. Бацька разззлаваўся: "Што ты мне прынёс! Прынясі нармальных!" Давялося ісьці да дарогі. Камяні бацька паклаў у печ, у агонь. Недзе праз гадзіну дастаў нагрэтыя камяні, укінуў іх у бітон у заведзеную брагу і сказаў: "Ну, цяпер брага будзе працаваць...", — а затым дадаў: "Ты ж нікому пра тое, што мы тут з табой рабілі, не кажы..." Нікому нічога я не сказаў, але доўга ў ляску за хатай спрабаваў з малодшымі братам і сястрой выгнаць з каменьня самагонку.

З электрычкі іду ў Пугачы. Прайшоўшы Дубравы, мінаю Дзявочую гару, на якой ляжаць вялікія камяні. Пад камянямі, кажуць, пахаваная прыгожая дзяўчына і яе хлопцы, якія кацілі гэтыя камяні на гару, каб той, хто першы закоціць, стаўся ейным мужам. Камяні хлопцы на гару ўскацілі, але іх сэрцы ад натугі разарваліся. Даведаліся пра гэта людзі, схапілі дзяўчыну і жывую разам з хлопцамі на гары закапалі. Я быў на Дзявочай гары, стаяў ля камянёў, і мне здавалася, што гэта я іх сюды закаціў...

## Людміла Рублеўская

# Пятнаццаты камень

У Беларусі кажуць, што камяні колісь расьлі, пакуль Маці Божая не пабіла аб адзін зь іх нагу.

Іншая беларуская легенда расказвае, што людзі ўтварыліся ад камянёў — водгульле антычнага міту пра сусьветны патоп, які Зэўс учыніў пасьля дзёрзкага крадзяжу Прамэтэя. Ацалелыя мужчына і жанчына скарыліся Зэўсу і прыніжана малілі выратаваць людзей. Зэўс зьлітаваўся. Камяні, што кідала цераз плячо жанчына, ператвараліся ў жанчынаў, кінутыя мужчынам — у мужчынаў.

У "Беларускай энцыкляпэдыі" няма артыкулу "камень". Ёсьць каменныя рэкі, ёсьць камень філярэтаў і камень каханьня, ёсьць каменямёт — старажытная ліцьвінская зброя. Ёсьць нават камень як адзінка вагі ў ВКЛ — 40 фунтаў, каля 15 кіляграмаў. А вось каменя як такога — няма... Можа, яго залічылі да паняткаў, якім немагчыма даць тлумачэньне? Вось у старым беларускім тлумачальным слоўніку камень ёсьць — гэта ўсякая цьвёрдая горная парода (за выключэньнем мэталу) у выглядзе суцэльнай масы або асобных кавалкаў. Або абломак такой пароды ці рэч, выробленая зь яе. Ёсьцека і яшчэ значэньні: вінны камень — асадак, які ўтвараецца ў віне, сіні камень — народная назва меднага купарвасу і г.д.

Камень — мэтафара гары, зь якой чалавек толькі й можа зьвяртацца да Бога. Таму — гранітныя трыбуны правадыроў. Слова, сказанае з каменя, лічылася асьвечаным нетутэйшай моцай.

Японцы кожны камень насяляюць духам.

У японскім садзе камянёў — пятнаццаць валуноў на белым пяску, які раўняюць граблямі, прыпадабняючы да хваляў. Але зь якога боку ні глянь — убачыш толькі чатырнаццаць камянёў. Пятнаццаты заўсёды будзе схаваны за іншымі. Але ты ведаеш, што ён ёсьць.

У Японіі рыхтаваць камяні для ўпрыгожваньня садоў — пачэсная, патомная прафэсія. Прыродны камень рэдка выглядае дастаткова "дзікім". Чалавек мусіць раскрыць ягоную натуру.

Нашы далёкія продкі шанавалі ўсё, што можа служыць арыенцірам на доўгіх шляхах пакаленьняў, — магутнае дрэва, гару, вялікі камень... У пустэльні насыпалі крушні. Сёньняшні наш зямляк усё разгладжвае, руйнуе, здрабняе. Занадта высокія дрэвы высякаюцца — а раптам паваліцца, драты абарве? Кудысьці зьнікаюць валуны... Брукаванкі заліваюцца асфальтам. Праўда, апошнім часам у горадзе пайшла новая мода — эрзац-эўрапейская. Замест асфальту ў найбольш важных месцах кладуцца маленькія бэтонныя плітачкі, што мусяць імітаваць колішнія камяні. Маленькія магільныя пліты нашай гісторыі.

Неяк вычытала ў газэце, што ў тоўшчы пліты эгіпецкай піраміды знайшлі чалавечы волас.

На магіле Караткевіча — камень. Каб мы не зблудзілі сярод бронзавых бюстаў.

Дзе бываю — стараюся прывезьці адтуль каменьчык ці цаглінку. Яны нібыта палоньнікі з розных краінаў, сагнаныя на скрыжаваньне. Кавалак Бэрлінскай сьцяны ляжыць ля паўкруглага аскалепка ад маскоўскага Васіля Бажавольнага, а побач кавалачак Мірскага замку. Як пасьля Армагедону.

У нас выхоўвалі пазытыўнае стаўленьне да "булыжніка — зброі пралетарыяту". Як атрымалася, што архетып бяззбройнага юнака з зацісьнутым каменем перад узброеным жандарам, Давыда перад Галіяфам, раптам пачаў трактавацца адмоўна?

Прамэтэй на памяць пра доўгія пакуты на скале насіў на руцэ мэталёвы пярсьцёнак з часткі ланцуга і аскепка скалы, да якой быў прыкаваны. Адсюль пайшла легкаважная мода на пярсьцёнкі і бранзалеты з камянямі. Зямля — гэта цьвердзь. Цьвердзь — камень. Тонкі слой глебы — ня больш чым пот на каменнай скуры плянэты.


IREX-PROMEDIA

# "Нябёсныя кроплі"

зразумела, Славамір Адамовіч, які прэзэнтаваў свой "Турэмны дзёньнік". Не абышлося й бязь лірыкі ды сьпеваў, якія разбавілі жорсткія пасажы экстрэмальных паэтаў. Лірычны настрой стварылі барды Валеры Руселік, Вольга Хвашчынская і Валеры Жамойцін.

Задаволены посьпехам імпрэзы, Славамір Адамовіч прабавіў у горадзе над Нёманам тры дні.

— Мне ня хочацца зьязджаць з Горадні, бо тут цяплей, чым у Менску, а галоўнае — шмат прыгожых жанчын! — казаў паэт. — З адной вельмі стылёвай паняй мне давялося пазнаёміцца ў кавярні, выпіць па келіху чырвонага віна "Нябёсныя кроплі" ды пашпацыраваць у парку Жылібэра!

**Ігар Гандлеўскі**

# "Наша Ніва" 90 гадоў таму

**Засьценак Бокшыцы**, Слуцкага пав. Хоць засьценак і невялікі, але ў ім робіцца тое, чаго не бывае часамі і ў вялікім. Народ у нас, дык народ: чорт сем лапцей стаптаў, пакуль іх сабраў. Сусед суседу стараецца як можна больш нарабіць сьвінства. А найбольш у гэтым стараецца адзін маладзік М.К-і. Што толькі зробіцца ў засьценку ліхога, то ўсё можна ад яго чакаць.

Як толькі гэты франт пабудзе ў карчме, тады дзяржыся: ня толькі чалавеку ня дасьць прайсьці па дарозе, але нават і сабацы, той галаву разаб'е, той ногі паломіць, а то і саўсім заб'е. Або зьбяруцца засьцянковыя дзяўчаты і хлопцы гуляць, а яго не прынімаюць, і ён ідзе на вёску, сабірае хлапцоў, поіць іх, і тыя прыходзяць у засьценак, адбіраюць музыку і не даюць нашай маладзёжы забаўляцца. І ўсё павінны яму маўчаць, бо ён потым "пакажа".

**К.П.**

**Наша Ніва, 27 кастрычніка 1911 г. №43**

# Сьвінастратэгія

Разбор з талібанамі мне не падабаецца. Прасты мардабой тут не дапаможа, бо аўганцы ня з тых хлопцаў, што дазваляюць сесьці сабе на хвост. Але існуе танны і бяскроўны спосаб падчысьціць сьвятую зямлю Аўганістану ад тэрарызму. Ён такі.

Наша Міністэрства абароны распрацоўвае адмысловую апэрацыю. Галоўная зброя — сьвіньні. Вядома, што талібаны баяцца сьвініны, як нячысьцік ладану, лічачы яе нячыстай стравай. Наш урад мусіць падчысьціць дзяржаўныя сьвінарнікі, то бок аўгіевы хлявы (у грэцкім арыгінале пра стайні ані слова), а калі трэба, дык рэквізаваць і сьвінарэсурсы насельніцтва — усё роўна ўраджай картопляў кепскі, — загрузіць у адмыслова збудаваныя на МАЗе аўтасьвінушнікі і рушыць да варожай аўганскай айчыны. У гэтай выправе павінны ўзяць удзел найлепшыя сьвінары Беларусі, узначаленыя Першым Сьвінаром.

Адначасова на заводах Беларусі праектуюцца адмысловыя пнэўматычна-рэактыўныя ўстаноўкі залпавага сьвінакіданьня. Апэрацыя па перагоне сьвіней да таджыцка-аўганскай мяжы ладзіцца ў найстражэйшым сакрэце. Дзеля прыкрыцьця абвяшчаецца, што Сапурмурад Назарбаеў папрасіў нас дапамагчы ўбраць нечуваны ўраджай пшаніцы, а сьвіньні ўзятыя для харчаваньня. Нарсултан Карымаў і Абдала Ніязаў таксама папросяць нас дапамагчы прыбраць і падмесьці што-небудзь.

Пераадольваючы па дарозе шматлікія спробы маскалёў прымазацца да нашай перамогі над талібанамі, караван дасягае Аўганістану. Газавая атака сьвінячым духам змушае талібанаў западозрыць нядобрае, і яны зьбіраюцца ў гурт, каб адбіць "няверных". Нам гэта толькі і трэба. Першы ж залп усяго толькі адной сьвінафэрмай парасят змусіць талібанаў пабегчы. Буйнакалібэрныя "Секачы" даробяць справу.

Урэшце, сам Усам Ладан, ратуючыся ад віску някормленых сьвіней, уцячэ ў дзікую пячору. Мы яе аточым. Нашыя ваяры выкураць Усама ладанам і парасячым водарам. Ён нам здасца ў белых пальчатках і зялёнай чалме й будзе залічаны на дзяржаўную службу.

Пасаромленыя амэрыканскія генэралы зробяць сабе харакіры пад кіраўніцтвам найлепшых японскіх інструктараў-тэрарыстаў, вядома, з "Чырвонай Арміі", — але пра гэта яны ўжо не дазнаюцца. Белы Дом перафарбуюць у Чырвоны. Лукаш абвесьціць сябе Бабурам і зробіць абразаньне. Лукашу паверацьь і яго палюбяць. Такім чынам і тамака, як і тутака, стане непатрэбнай будучыня, бо час спыніцца. Надыдзе доўгачаканы канец гісторыі па Фухіморы ці Ханаяні. Пачнецца нірвана, дзе няма месца тэрарызму і мэтэмпсыхозу.

**Мікола Бусел, Дуброва**

# Прыслалі сабаку ліст зь белым парашком

Адзін сабака атрымаў ліст зь белай Арапіі. Думаў, што яму белыя арапы прыслалі даляры, але, калі раскрыў канвэрт, адтуль пасыпаўся белы парашок. Перапалохаўся сабака і пабег да беларускіх акадэмікаў, каб высьветліць, ці заразіўся ён сыбірскай язвай. Сабараўся калёквіюм пад камандаваньнем Граждана. Засядалі без усякай пішчы тры дні і тры ночы. І на чацьвёрты дзень выступіў Граждан.

**Граждан:** Брацьця і сёстры! У гэты знамянальны для нашай акадэміі дзень, калі чэсным вучоным няма чаго есьці, хачу паведаміць, што сабака атрымаў белы парашок. Але ён хутка здохне. Ён бы і так здох, але гэты працэс зацягнуўся б яшчэ на некалькі гадоў. Ён бы мучыўся сам і нас бы мучыў, як прафэсар Праабражэнскі мучыў беднага Шарыка, прымушаючы яго вывучыць табліцу Шапэнгаўэра. Зараз гэты сабака сам будзе страдаць за свае грахі. Брацьця і сёстры! Хто згодны са мной, прашу ўдаліцца на савяшчаньня.

**Акадэмік:** Ні на якія савяшчаньні я больш не пайду. Сабаку я не сваяк, таму мне няма чаго скрываць. Сабака ня здохне. Сабака друг чалавека, я ўжо не кажу пра жывадзёрню, і таму ён ня здохне ад сыбірскай язвы. Белы парашок ад нашых сяброў белых арапаў — гэта ўсяго-наўсяго цукровая пудра, якой некаторыя жэншчыны і дзявіцы пасыпаюць сабе цела, каб было смачней іх цалаваць.

**Прафэсар:** Навукай яшчэ не даказана, што ў белым парашку жыве сыбірская язва, як невядома, ці ёсьць жыцьцё на Марсе. Я гэтыя тры дні і тры ночы ня спаў. І вы думаеце, што я нешта мог прыдумаць? Адно скажу, што гэты сабака ў мінулым годзе здаваў аналізы, і яны ў нас на добрым шчату.

**Доктар:** Тое, што ў сабакі аналізы на добрым шчату, гэта яшчэ ня доказ, што гэты сабака будзе жыць. У нас на фронце быў адзін сабака, дык у яго кожны дзень былі добрыя аналізы. Да ўсяго сыбірская язва — гэта ня ордэн, які пачэпіш на піджмак і будзеш бясплатна езьдзіць у абшэствянным транспарце. Я лічу, што сабаку трэба ізаляваць ад вопшчаства, а то ён нас пакусае, і мы не даведаемся, ад чаго ён здохне.

**Дацэнт:** Я, як дацэнт, магу з разгону сказаць, што сабака сам выдумаў гэты белы парашок і цяпер усімі намі сьпікуліруе. Пяць гадоў назад мы яму ня далі грамату, як лепшаму танцору лебядзінага возера, дзе ён быў у галоўнай парціі... А цяпер яму мяшае белы парашок...

**Лябарант:** Я рабіў досьлед з гэтым парашком. Магу адназначна сказаць. што ён белага колеру і раствараецца ў вадзе. Увогуле ж, на маю думку, у парашку ня можа сядзець сыбірская язва, бо яна там задыхнецца.

Тутака прыйшла **Прыбіральшчыца** і сказала: Урэмя прыбіраць. Што вы тут мучыце сабачку? І змыла парашок к чортавай мацеры.

**Віктар Шніп**

## Паштовая скрынка



**Сяргею Б. зь Менску.** Пра сэйшн у "Тунэлі" напісана не па-наску, а як для *Музыкальной газеты*.

**Феліксу Ш. з Прапойску**. Каб Вы былі адразу нам даслалі, дык мы былі б надрукавалі. Цяпер пазнавата. Дый, дарэчы, Вы так і не адказваеце на пытаньне, якую палітыку мусіць весьці апазыцыя, каб за яе галасавалі "ў кожнай вёсцы за менскай кальцавой дарогай".

**Юзафу Ч. з Вулькі.** Вельмі "па-расейску" аналізуеце Вы беларускую палітыку, дарма што беларускаю моваю пішаце. Большасьць беларускіх урадоўцаў і палітыкаў кіруюцца перадусім пачуцьцём грамадзянскага або нацыянальнага абавязку і імкненьнем добра цягнуць справу, у якую доля запрэгла. У Вас нейкае "крэмлязнаўства" выходзіць: быццам усімі рухае толькі прага грошай і пыха. А ў нас і Крамля няма, каб "крэмлязнаўству" існаваць. Выразаў "нацыянал-патрыёты", "нацыянальна-арыентаваныя" і г.д. мы імкнемся не ўжываць, бо яны маюць выразна імпэрскую кадзіроўку.

## Прыватныя абвесткі



### білет

**Студэнцкі білет** № 993077 на імя Шумчык Ганны Казіміраўны лічыць несапраўдным

### вітаньні

**Прафэсар А.Ненадавец**, не давайце бедным студэнтам такія вялікія рэфэраты (30 старонак). Цяжка. P.S. Лекцыі нам падабаюцца

**Віншуем Алега Сяргеевіча** зь яго Днём нараджэньня. Жадаем шчасьця, здароўя, удачы. Ад усіх сяброў і сям'і

**Любую дачушку Кацярынку** віншую з народзінамі. Хай шчасьце і доля заўсёды будуць побач. Валянціна Корзун

**Вітаю лунінецкі ліцэй** з 10-годзьдзем. Жадаю, каб ён стаў-такі беларускамоўным! Віт – выпускнік 2001

**Вітаю ўсіх**, хто вучыцца й вучыўся ў Ліцэі горада Лунінца са сьвятам! Вам – 10 гадоў! Нам – 4 гады. Студэнты (зусім нядаўна – ліцэісты!)

**Спадара Пінхасіка** вітае Міця Вухін, які спадзяецца на ягоны адказ

**Мілы-мілы Сёма!** Адэлька цябе вельмі любіць, цэніць і заўжды сумуе па табе

**Нашую птушачку** віншуем з народзінамі. Бусьлікі

**Дзядзька Міша!** Прывітаньне ад харыкаў

**Іраіда!** У нас заўжды першы тост за снайпэра, то бок за Вас! Радыкалы

**Зважаючы на звышапэратыўнасьць** надрукаваньня прыватных абвестак у "Нашай Ніве", віншуем Іраіду з прамінулымі народзінамі. Атрад хуткага рэагаваньня

**Калі не з табой**, то й ніякай ня трэба...

### гімназія

**1 верасьня 2002 г.** у цэнтры Менску мае адчыніцца новая беларуская гімназія. Хто хоча патрапіць у яе і хто мае прапановы па яе стварэньні, тэлефануйце: 213-43-52 (ТБМ), 288-68-91 (Ігар, пасьля 20.00)

### казінае малако

**Буду стала купляць** казінае малако для малога дзіцяці (у Менску). Т. 227-96-24.

### кантакты

**Аляксандар**, 28 год, прывабны, добры, прыстойны, з в/а, без ш/зв, жанаты ня быў, небагаты, любіць кнігі і прыроду, пазнаёміцца для стварэньня сям'і зь дзяўчынай. 210021, Віцебск-21, а/с 21

**З нагоды Дзядоў** запрашаем усіх ахвотных прыбраць разам Кальварыйскія могілкі. Збор ля галоўнай брамы 3.XI.01 аб 11.00.

## Водгук

# Пра паганства і Друвінгаў




**Прачытаўшы ў мінулым нумары вашае газэты нататку пра прызнаньне паганства ў якасьці традыцыйнае рэлігіі ў Літве й сытуацыю з паганскімі суполкамі на Беларусі, хацеў бы як чалавек абазнаны ў гэтым абсягу зрабіць колькі ўдакладненьняў.**

Па-першае, прыкладная лічба ў колькі соцень беларускіх паганцаў, якая фігуравала ў паведамленьні, надта заніжаная, бо ў Менску можна знайсьці яшчэ гэтулькі ж адно сярод перакананых беларускіх патрыётаў, ня кажучы ўжо аб іншых рэгіёнах ды катэгорыях жыхарства. Паганства, да прыкладу, надзвычай папулярнае ў асяродзьдзі прыхільнікаў цяжкой музыкі й нэафольку, скінгедаў, чальцоў гістарычных клюбаў. Зважаючы на расчараванасьць моладзі ў вядомых хрысьціянскіх канфэсіях, можна меркаваць, што колькасьць патэнцыйных адэптаў роднае веры прыкладна роўная колькасьці, скажам, уніяцкіх вернікаў.

Што тычыцца згадкі пра нейкіх эўразійска-прарасейскіх паганцаў, дык гэта выдае на нонсэнс, бо эўразійская ідэалёгія пярэчыць падставовым прынцыпам этнічнае традыцыі эўрапейцаў. Яна напоўніцу ўгрунтаваная на ўнівэрсалісцкіх й мэсіянскіх дактрынах праваслаўнага й ісламскага фундамэнталізму.

Адносна Цэнтру этнакасмалёгіі *"KRYUJA"* — пэўна, адзінай у нас сур'ёзнай арганізацыі паганістычнага кшталту, — дык гэта, перадусім, згуртаваньне мысьляроў, навукоўцаў, людзей мастацтва, якія ставяць на мэце дасьледаваньне, рэканструкцыю й рэактуалізацыю этнічнага космасу крывічоў (беларусаў) ва ўсёй шматстайнасьці ягоных праяваў — ад максымальна сакралізаваных да самых простых і пабытовых. Дарэчы, пад рэдакцыяй і пры актыўным удзеле аднаго з заснавальнікаў *"KRYUJA"* — культуроляга Сяргея Санька падрыхтаваны энцыкляпэдычны даведнік "Беларуская міталёгія", у стварэньні якога бралі ўдзел Ул.Лобач, А.Прохараў, Л.Дучыц, Э.Зайкоўскі, Л.Салавей ды інш. Калі дазволіць фінансавае становішча, выданьне мае неўзабаве пабачыць сьвет.

Ня трэба думаць, што беларускі паганскі рух нейкі спрэс архаічны — у адваротным можна пераканацца, наведаўшы сеціўны рэсурс "Сьвятая Дуброва — Крыўскі Пяроспар", гаспадары й суўдзельнікі якога ня толькі выкарыстоўваюць найноўшыя тэхналёгіі, але й агулам адмаўляюцца ад ужываньня тэрмінаў "паганства", "язычніцтва", уважаючы іх за навязаныя, і называюць сябе Друвінгамі (ад яцьвяскага *druvis* — "вера").

А што да нежаданьня найбольш уплывовых у нашым паганскім руху асобаў рэгістравацца ў якасьці рэлігійнага аб'яднаньня, дык гэта хоць і пазбаўляе іх афіцыйнага права на існаваньне, але ў той жа час дэманструе іхную пасьлядоўнасьць у адмаўленьні сучаснай сьвецкай і дэнацыяналізаванай дзяржавы, улада якой ня мае ў вачох нашчадкаў крывісаў ніякае легітымнасьці.

**Аляксей Дзерманіс, vilis@tut.by**

*Віншуем Юлю Канцэвіч і Сержука*

*Сматрычэнку са шлюбам!*

*Рэдакцыя*

*Самыя лепшыя супрацоўнікі віншуюць з народзінамі Генадзя Цыхуна — Найлепшага Шэфа ў сьвеце*

Рыштунак і сьвечкі пажадана мець з сабою

**Генусь, Мішон, Саша, Алесь Вольны**, чакаем вас 15 лістапада ў Горадні. Ад Менскіх – "Алівария"! Мэдыкі й Эколяг

**Усе сьвядомыя геі**, асабліва інваліды-калясачнікі! Прыходзьце а 17 гадзіне штонядзелю на станцыю "Магілёўская"мяняю

**Мяняю** 1-пакаёвую кватэру 19/37 кв.м. 4/5-павярховага дома ў Віцебску на Менск, Маскву. 210021, Віцебск-21, а/с 21

### кнігі, музыка

**Беларуская рок-**, поп-, фольк-, бард-музыка, відэакасэты на беларускай мове ў Дзятлаве. Т.: 2-20-53 (Жэня)

**Вакальны блюзавы дуэт** шукае беларускамоўны матэрыял для выкананьня. Т.: 257-26-57 (Паліна), 501-44-48 (Юля)

**Буду вельмі ўдзячны** за дасланыя тэксты беларускіх песень з акордамі. 223619, Слуцак, вул.Парыскай Камуны, 4-41

**Ці выходзіць** яшчэ газэта "Слова Нацыі"? Калі так, паведамце

**Запісы гурту "Стары Ольса"** – "Келіх кола", "Вір", іншыя запісы, відэа, паштоўкі, значкі. Т.: 220-68-74. Міхаль

**"Адважнае сэрца"**, "Глядыятар", "Матрыца" і іншыя відэафільмы ёсьць у Гомелі. Т.: 45-11-51 (штодня)

### набуду

**Набуду дзіцячую раскладную канапу** ў добрым стане. Т.: 544-21-63 (Марына)

**Набуду радыётэлефон** б/у ў добрым працоўным стане альбо АВН. Т.: 544-21-63

### прадам

**Прадам мабільны** тэлефон Siemens C 35 (100 USD) і Nokia 3310 (120 USD), усе новыя, з гарантыяй. Т.: 8(029) 651-83-08

**Прадам** дыскі R14 на Audi (2 шт.) альбо памяняю на ад Wolksvagen. Т.: 262-11-19

### праца

**Грузчыкі-студэнты** (будаўнічыя матэрыялы, фуры, мэбля і іншыя грузы): хутка, танна, нядорага. Т.: 8-029-477-93-12

*Віншуем Лавар Яўгенію Эдуардаўну з 50-годзьдзем.*

*Любая матуля, самая прыгожая, добрая, сьветлая, надзейная! Кахаем цябе ўсім сэрцам! Зычым шчасьця вялікага, як шар зямны, сьмеху звонкага, як рэха, пяшчоты неабдымнай, як неба, каханьня глыбокага, як мора.*

*Твае дзеці.*



Як праект Канстытуцыі на ўсенароднае абмеркаваньне выправіла па сьвеце свой пераклад Жывой Этыкі. Але чаму Вы ўсе маўчыце?

Ганна



**НАША НІВА**
незалежная газэта
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
**галоўныя рэдактары "Нашай Нівы":**
С.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч (1920), С.Дубавец (1991—2000).

| | |
|---|---|
| сакратарка рэдакцыі | Наста Бакшанская |
| вярстальніца | Заміра Болцікава |
| карэктарка | Надзея Бракар |
| галоўны рэдактар | Андрэй Дынько |
| адказны сакратар | Андрэй Кузьнечык |
| карэктар | Сяргей Петрыкевіч |
| нам. галоўнага рэдактара | Андрэй Скурко |
| мастацкі рэдактар | Аляксей Чарняеў |
| выдавец | Фонд выданьня газэты "Наша Ніва" |

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Менск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 213-32-32**
**E-mail: nn@irex.minsk.by**
**http://niva.s5.com**



6 палос фарматам А2. Друкарня РУП "Выдавецтва "Беларускі Дом друку". Менск, пр. Скарыны, 79. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4 ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г.Менск, пр. Газэты "Известия", д. 8, кв. 173.
Наклад 4592.
Нумар падпісаны ў друк 28.10.2001.
Замова № 6278 .
Рэдакцыйны адрас: Менск, Калектарная, 20а/2а